Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 23 (4823) 12 чэрвеня 2015 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага мастака СССР Ілью Глазунова з 85-годдзем. «У многіх краінах свету, у тым ліку і ў Беларусі, шырока вядомыя вашы творы ў самых розных жанрах — ад незабыўных ілюстрацый да твораў Фёдара Дастаеўскага, гістарычных палотнаў і партрэтаў выдатных дзеячаў сучаснасці да манументальных тэатральных пастановак», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Грамадскае абмеркаванне намінантаў на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2015 — 2016 гады пройдзе з 10 чэрвеня па 10 верасня. Паводле рашэння экспертнага савета, на ганаровую ўзнагароду ад Беларусі вылучаны чатыры прэтэндэнты. Гэта народны артыст СССР і Беларусі кампазітар Ігар Лучанок — за цыкл патрыятычных песень да 70-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне; народны артыст Беларусі мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. І. Цітовіча Міхась Дрынеўскі — за канцэртныя праграмы калектыву; творчая садружнасць народнага артыста Беларусі кіраўніка ансамбля «Сябры» Анатоля Ярмоленкі, кампазітара Алега Елісеенкава і паэта Івана Юркіна — за альбом «Дзе каліна цвіла»; аўтарскі калектыў помніка найсвяцейшаму Патрыярху Алексію II у складзе протаіерэя і архітэктара Фёдара Поўнага, скульптара Уладзіміра Слабодчыкава і архітэктара Ігара Марозава.

✔ Завяршаецца прыём заявак на нацыянальны адбор дзіцячага «Еўрабачання-2015», арганізатарам якога выступае Белтэлерадыёкампанія. З Палажэннем аб нацыянальным адборы дзіцячага конкурсу песні «Еўрабачанне-2015» можна азнаёміцца на афіцыйным сайце Белтэлерадыёкампаніі ў раздзеле «Праекты».

✔ Аб'яўлены рэспубліканскі конкурс творчых работ школьнікаў «Гэта твой свет заўтра», прысвечаны 70-годдзю ААН. Конкурс праводзіць прадстаўніцтва ААН у Беларусі сумесна з Мінскім дзяржаўным палацам дзяцей і моладзі. Да ўдзелу запрашаюцца навучэнцы ўстаноў адукацыі рэспублікі ва ўзросце ад 7 да 18 гадоў. Прадастаўляецца магчымасць паспаборнічаць у майстэрстве жывапісу і фатаграфіі, а таксама вершах, песнях, відэароліках.

✔ Сёння ў Паставах пачынаецца XVIII Міжнародны фестываль народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік». Фэст збярэ лепшыя калектывы з усіх рэгіёнаў Беларусі, у тым ліку лаўрэатаў папярэдніх форумаў, а таксама творчыя дэлегацыі з Латвіі, Літвы, Польшчы, Украіны, Расіі, Славакіі, Эстоніі. Падчас свята будзе адкрыты памятны знак, прысвечаны пабрацімскім сувязям горада Паставы.

ISSN 0024-4686






Фота Кастуся Дробава

*Намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі падчас адкрыцця X Беларускага міжнароднага медыяфоруму «Партнёрства ў імя будучыні: спадчына Вялікай Перамогі».*

# Прафесіяналізм, праўдзівасць, адказнасць

**X Беларускі міжнародны медыяфорум «Партнёрства ў імя будучыні: спадчына Вялікай Перамогі» прайшоў у сталіцы. Каб абмеркаваць актуальныя пытанні развіцця журналістыкі, падзяліцца вопытам расповеду пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны ў СМІ розных відаў, прэзентаваць новыя праекты і акрэсліць шляхі далейшага прафесійнага супрацоўніцтва, у Мінску сабралася больш як 400 журналістаў з 20 краін свету. У межах форуму прайшлі пленарнае пасяджэнне і панэльныя дыскусіі, працавала Летняя школа журналістыкі, адбылася сустрэча Савета кіраўнікоў дзяржаўных інфармацыйных агенцтваў СНД.**

Тое, што медыяфорум вось ужо дзясяты раз паспяхова прайшоў менавіта ў Беларусі — зусім не выпадковасць. Памяць пра Вялікую Айчынную вайну ў нашай краіне шануецца і захоўваецца, рэалізуецца шмат праектаў, скіраваных на вывучэнне падзей той вайны, ушанаванне яе герояў, а Мінск ужо стаў прызнанай пляцоўкай, дзе магчымы рацыянальны дыялог дзеля захавання міру ў сучасным свеце. У беларускай сталіцы могуць сустрэцца прыхільнікі розных поглядаў, мірна выказаць уласныя думкі, абмеркаваць вострыя праблемы для паспяховага вырашэння. Таму ў прамовах, выступленнях удзельнікаў медыяфоруму гучалі спадзяванні на праўдзівасць адлюстравання падзей у СМІ, захаванне прафесіяналізму і нейтралітэту саміх журналістаў.

Беларускі міжнародны медыяфорум падтрымліваецца Прэзідэнтам Беларусі, урадам. У яго арганізацыі бяруць удзел Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы, Выканаўчы камітэт краін СНД, Арганізацыя Дагавора аб калектыўнай бяспецы, Міждзяржаўны фонд гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД, Міністэрства замежных спраў Беларусі, Мінгарвыканкам і Мінаблвыканкам.

Чытайце на стар. 8 ▶

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Адбор будзе строгі

**Вынікі Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу, прысвечанага 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 70-годдзю Вялікай Перамогі, падвялі ў сталічным Доме літаратара. Акрамя таго, Міністэрствам інфармацыі, Міністэрствам культуры, Міністэрствам адукацыі і Саюзам пісьменнікаў Беларусі распрацаваны праект рэспубліканскага конкурсу «Нацыянальная літаратурная прэмія». Пра гэтыя творчыя спаборніцтвы — гутарка з першым сакратаром СПБ Генадзем Пашковым.**

— На суд журы першага конкурсу было прадстаўлена больш як 100 тэкстаў самых розных жанраў — проза, паэзія, творы для дзяцей, публіцыстыка, драматургія, літаратуразнаўства. Аўдыторыя найшырэйшая: ад прафесійных пісьменнікаў, у тым ліку старэйшын айчыннай літаратуры Алеся Савіцкага, Мікалая Іванова, Уладзіміра Федасеенкі, да пачаткоўцаў — студэнтаў Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі (выдалі нават тэматычныя альманахі) ды школьнікаў. Так, навучэнка гродзенскай гімназіі № 9 Кацярына Зайцава напісала літаратуразнаўча-філасофскую працу па творчасці Алеся Савіцкага, а Дар'я Мартусевіч і Яна Маркевіч са смаргонскай сярэдняй школы № 3 прадставілі краязнаўчае даследаванне «Іх імёнамі названы вуліцы г. Смаргоні», праведзенае пад кіраўніцтвам настаўніцы Галіны Мінкевіч. Увогуле, цікава было прачытаць, як маладыя сучаснікі глядзяць на падзеі, што адбыліся больш як сем дзесяцігоддзяў таму.

**— Хто стаў лепшым сярод літаратараў-прафесіяналаў?**

— Акрамя ўжо названых Алеся Савіцкага і Уладзіміра Федасеенкі — Уладзімір Гніламёдаў, Віктар Кудлачоў, Георгій Марчук, Тамара Краснова-Гусачэнка, Сяргей Трахімёнак, Зінаіда Дудзюк, Алесь Марціновіч, Мікола Чарняўскі, Уладзімір Вялічка, Іван Юркін, Казімір Камейша ды многія іншыя — усяго больш як трыццаць аўтараў. За вялікую работу па прапагандзе беларускай літаратуры адзначаны загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка ды артыстка эстрады і майстар мастацкага чытання Зінаіда Феакцістава.

**— Па якіх крытэрыях журы вызначала пераможцаў конкурсу?**

— Журы на чале з пісьменнікам, прафесарам, доктарам філалагічных навук Іванам Саверчанкам асаблівую ўвагу звяртала на мастацкасць твораў, грамадзянскую пазіцыю канкурсантаў і адпаведнасць твора гістарычнай праўдзе.

**— Ці ладзіліся падобныя конкурсы раней?**

— Так, але яны мелі больш лакальны характар. А такое маштабнае творчае спаборніцтва адбылося ўпершыню.

**— Нацыянальная літаратурная прэмія. Што гэта за праект?**

— Раней мы рэгулярна праводзілі рэспубліканскі конкурс на лепшы твор года. Пераможцам уручаліся статуэткі «Залаты Купідон» і дыпломы. А пачынаючы з бягучага года замест творчага спаборніцтва будзе праводзіцца новае, якое і атрымала назву «Нацыянальная літаратурная прэмія».

Праект скіраваны на падтрымку развіцця айчыннай мастацкай літаратуры для дарослых, дзяцей і юнацтва, розных жанраў пісьменніцкай творчасці: паэзіі, прозы, драматургіі, публіцыстыкі, літаратурнай крытыкі і літаратуразнаўства, а таксама на папулярызацыю кніг і чытання ў грамадстве. Побач з конкурснымі намінацыямі з'явілася новая — «Дэбют», для пачаткоўцаў, якія заявяць пра сябе не толькі кнігамі, але і адметнымі публікацыямі.

**— Чым яшчэ будзе адметны новы конкурс?**

— У мінулыя гады ў кожнай намінацыі вылучалася па тры прэміі, цяпер — толькі па адной. Гэта значыць, што крытэрыі значна павысяцца і адбор будзе вельмі строгі. У аргкамітэт конкурсу ўвойдуць прадстаўнікі трох міністэрстваў — інфармацыі, адукацыі, культуры, — а таксама Саюза пісьменнікаў Беларусі, Выдавецкага дома «Звязда» і Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Адбіраць творы будуць экспертная камісія і журы конкурсу. А ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў пройдзе, як і раней, падчас святкавання Дня беларускага пісьменства.

**Яна ЯВІЧ**

# Век земляка-франтавіка

Памяці паэта Дзмітрыя Кавалёва, стагоддзе з дня нараджэння якога адзначаецца на Гомельшчыне, была прысвечана вечарына ў абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна па ініцыятыве Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Урачыстасці папярэднічала адкрыццё адпаведнай тэматычнай выстаўкі, зладжанай супрацоўнікамі ўстановы, у аддзеле краязнаўства бібліятэкі. Пра жыццёвы і творчы шлях блізкага родзіча распавялі сын і брат Д. Кавалёва. Будучаму музею літаратуры Гомельшчыны яны пакінулі кнігі і публікацыі з аўтографам паэта. А ў актавай зале кніжніцы прайшла асноўная частка імпрэзы, падрыхтаваная гомельскімі пісьменнікамі.

— Дзмітрый Кавалёў — чалавек няпростага жыццёвага і творчага лёсу, — адзначыў старшыня абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Гаўрыловіч. — Сын веткаўскага каваля, чыя сям'я ў пошуках працы многа і часта ездзіла па Гомельскім і Лоеўскім раёнах, бачыў, наколькі цяжкае жыццё з мазаля. І таму цягнуўся да асветы: вучобу пачаў у вёсцы Прудок, пасля былі вячэрні педагагічны рабфак у Навабеліцы і вячэрні тэхнікум у Гомелі. Далей — праца настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў вёсцы Раманавічы, армія, вайна, франтавы друк, ваенныя дарогі...

Перажытае знайшло водгалас у паэзіі: першая, рускамоўная, кніга — «Далёкія берагі» (1947). Абапіраючыся на багатыя традыцыі нацыянальнай і рускай савецкай паэзіі — а ён займеў у паэтычным шматгалоссі сваё адметнае месца, — Дзмітрый Кавалёў выдаў кнігі «Мы не расстанемся» (1953), «Рабінавыя ночы» і «Салдацкія думы» (абедзве — 1958), «Ціхая маланка» (1961) ды іншыя. Пра талент творцы распавёў падчас імпрэзы прафесар Іван Штэйнер.

У лірыцы Д. Кавалёва — гул падзей, якія хвалююць кожнага: фронт, любоў да роднай Беларусі, вера ў Перамогу, сённяшні дзень планеты. Жывучы ў Расіі, паэт пастаянна сцвярджаў: Радзіму і маці не забываюць. Услаўляў прыход вясны на калгасных палетках, жывапісныя куткі берагоў Сожа, каханне і чуласць душы.

Пайшоў з жыцця ў 1977 годзе. У Ветцы ёсць і вуліца ў гонар паэта.

Савет Гомельскага абласнога аддзялення СПБ заснаваў абласную літаратурную прэмію, якой удастойваюцца тыя літаратары, што працягваюць традыцыю Дзмітрыя Кавалёва, а таксама дзеячы культуры. Першай узнагароду атрымала гомельская паэтэса Эма Усціновіч. Сёлета пры падтрымцы аддзялення выйдзе яе чарговая кніга.

Працягнуў урачыстасць Паэтычны тэатр з літаратурна-музычнай кампазіцыяй «Я не перастану любіць», цікавымі ўспамінамі пра бацьку падзяліўся сын паэта, прафесар адной з маскоўскіх ВНУ Міхаіл Кавалёў, іншыя сямейнікі. Адбылася і прэзентацыя зборніка вершаў ды дзённікавых запісаў «Нет вечных истин ничего новей», які выйшаў у Маскве да 100-годдзя Дзмітрыя Кавалёва.

**Мікалай ІГНАТОВІЧ**

# Тут паэты спяваюць

**Адным з важных складнікаў XV Нацыянальнага фестывалю беларускай паэзіі і песні стала правядзенне ў Маладзечне паэтычнай гасцёўні «Красуй, Беларусь!».**

Удзельнікі пісьменніцкай дэлегацыі, дзе былі як прадстаўнікі старэйшага пакалення творцаў (напрыклад, Уладзімір Мазго — удзельнік самага першага фестывалю ў 1993 годзе), так і маладыя члены СПБ, традыцыйна наведалі філіял Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ў Вязынцы і ўсклалі да помніка класіку ружы ды ўласныя радкі. Вершы гучалі і над калыскай Купалы, і нават у аўтобусе, які вёз творцаў да Маладзечна. Тут жа самыя цікаўныя маглі даведацца пра адметнасці мясцовых краявідаў ад дасведчанага краязнаўца Міхася Казлоўскага.

Падчас імпрэзы ў малой зале Палаца культуры слова атрымалі ўсе: і мінскія госці, і тыя, хто жыве і працуе ў Маладзечне. Творцы чыталі новыя вершы, спявалі песні альбо зачытвалі іх тэксты, расказвалі пра адметныя выпадкі з жыцця, а маладая аўтарка Аксана Ярашонак падзялілася радасцю — у яе выйшла кніжка! Адчувалася, што ў «гасцёўні», вядучымі якой сталі «дыяблогеры» Навум Гальпяровіч і Тацццяна Сівец, не было выпадковых людзей: тут сабраліся сапраўдныя аматары паэзіі, тыя, каму важна ўбачыць жывога аўтара, пачуць яго голас і даведацца, чым жыве сёння беларуская літаратура. І, магчыма, на вялікай сцэне згубіўся б той флёр элітарнасці і інтымнасці, без якога немагчымае ўспрыманне сапраўднай паэзіі. У песні ж увага мусіць дзяліцца паміж вершам, музыкай і асобай выканаўцы, а ў сваёй прасторы літаратары маглі напоўніцу выказаць адчуванне ўласнага радка. Таму не можа не радаваць, што арганізатары ўжо ў другі раз выкарыстоўваюць форму паэтычнай гасцёўні, каб айчынныя творцы атрымалі магчымасць вока на вока сустрэцца са сваім чытачом, а пасля ўжо адпачыць пад святочныя песні ў выкананні найлепшых фальклорных калектываў краіны. Канцэрт «Беларусь святочная» прадставіў цэлы россып таленавітых выканаўцаў, але, відаць, самыя моцныя ўражанні выклікалі аўтэнтычныя спевы гурта «Шчодрыца» з Лагойска і нявераготнае вяселле, якое зладзілі госці з Любані… А песні ў выкананні паэтаў (зноў-такі традыцыйна) не сціхалі ў аўтобусе аж на да самага Мінска.

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

# Гучала пушкінская ліра

У дзень нараджэння А. С. Пушкіна каля яго помніка адбылося традыцыйнае паэтычнае свята. Арганізатарамі сталі Мінскае гарадское аддзяленне СПБ і грамадская арганізацыя «Наша Русь», якая дзейнічае пры Пасольстве Расійскай Федэрацыі ў Беларусі. Пачалося свята з ускладання кветак да помніка А. С. Пушкіну. З уступным словам пра значэнне творчасці Пушкіна ў наш час выступіў вядучы свята, старшыня сталічнай пісьменніцкай арганізацыі паэт Міхась Пазнякоў. Ён прачытаў у сваім перакладзе на беларускую пушкінскі верш «Я помню дзіўнае імгненне…». Любімыя пушкінскія і ўласныя вершы прачыталі паэты Вадзім Спрынчан, Алена Міхаленка, Лізавета Палеес, Міхаіл Ткачоў, Мікалай Кулецкі, Тацццяна Жылінская, Эльвіра Ярчак, Хізры Асадулаеў. Апошні прадэкламаваў таксама вершы А. С. Пушкіна ў сваім перакладзе на карацінскую мову.

Прагучалі вершы класіка рускай паэзіі і ў выкананні вучняў 218-й і 55-й СШ г. Мінска.

Прадстаўнік «Нашай Русі» ўручыла найбольш актыўным удзельнікам свята мініяцюрнае выданне лірыкі Аляксандра Пушкіна.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Сустрэнемся ў Полацку?

Полацк — адметны сярод гарадоў Беларусі. Відаць, таму і свой дзень нараджэння ён святкуе на працягу цэлага тыдня! Тут не забываюцца пра тое, што славу горада складаюць асобы творчыя, таму і ўключылі ў шэраг святочных мерапрыемстваў «Полацк — калыска беларускай дзяржаўнасці» і літаратурнае свята «Полацкія сустрэчы», і пісьменніцкія майстар-класы, і «турнір паэтаў», і «бібліяноч», і шматлікія творчыя прэзентацыі ды чытанні… Як зазначыла ў віншавальным адрасе дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Наталля Гуйвік, «на Полаччыне заўсёды шанавалася мастацкае слова, якое звязана з выхаваннем патрыятызму, высокага духу чалавека».

Ідэя «Полацкіх сустрэч» узнікла ў Полацкім райвыканкаме і была падтрымана Выдавецкім домам «Звязда», а таксама ганаровымі грамадзянамі Полацка Алесем Савіцкім і Навумам Гальпяровічам. Яны, нястомныя, пасля дзённых выступленняў, паказвалі родны горад сваім калегам — галоўнаму рэдактару часопіса «Гаспадыня» Зіновію Прыгодзічу, выдаўцу з Даўгаўпілса Жанне Раманоўскай, галоўнаму рэдактару «ЛіМа» Таццяне Сівец і намесніку дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесю Сушу. Дарэчы, апошні рупіцца цяпер, каб пра асобу, бадай, самага славутага палачаніна Францыска Скарыны ведалі паўсоль. Ёсць верагоднасць, спадзяецца даследчык, што 2017-ы будзе аб'яўлены ЮНЕСКА Годам Скарыны. А пакуль варта, каб у Полацку можна было сустрэць як мага больш прадукцыі з выявамі першадрукара. Ды і сумесную выстаўку выданняў Скарыны трэба наладзіць, не чакаючы юбілею беларускага кнігадрукавання…



Фота Алеся Сушы

Алесь Савіцкі выступае ў Полацкім каледжы.

Сёлетнія сустрэчы — першы крок да галоўнай мэты арганізатараў імпрэзы — распавесці пра Полацк усяму свету. І дасягнуць яе будзе прасцей, калі сюды будуць з'язджацца творцы з розных краін, каб, вярнуўшыся, падзяліцца з калегамі сваім захапленнем. «Чалавек, які лічыць сябе культурным, проста абавязаны пабываць у Полацку», — упэўнены старшыня Полацкага райвыканкама Мікалай Шаўчук. «Я атрымаў тут такі зарад духоўнай велічы, духоўнай прыгажосці, — дзеліцца ўражаннямі ад вандроўкі ў родны горад пісьменнік Алесь Савіцкі, — і сёння я глыбей адчуваю свой абавязак — перадаць наступным пакаленням адчуванне велічы нашай зямлі».

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

***Думка з нагоды***

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ:**

«Трэба сказаць, што ў Полацку не раз бывалі цікавыя сустрэчы з літаратарамі. У свой час мяне, чатырнаццацігадовага хлопчыка, адна з іх узрушыла на ўсё жыццё і пэўным чынам паспрыяла таму, што і я далучыўся да літаратуры. Тады ў горад прыехалі такія, па-сучаснаму кажучы, «зоркі», як Пятрусь Броўка, Пімен Панчанка, Алесь Савіцкі, маладыя зусім Генадзь Бураўкін і Рыгор Барадулін, славуты савецкі паэт Міхаіл Святлоў. Мне пашчасціла з маім сябрам і таварышам па літаб'яднанні Іванам Стадольнікам сустракацца на полацкай зямлі з Васілём Быкавым, Уладзімірам Караткевічам, Міхасём Стральцовым… А кожны прыезд у родны горад Алеся Ануфрыевіча Савіцкага быў падзеяй, яркай і незабыўнай, якой ён стаў і ў гэтыя дні! Трэба было толькі пабачыць, як сустракаюць пісьменніка, ганаровага грамадзяніна горада земляні, гэта ўзрушвае і запамінаецца. Дарэчы, дзе яшчэ сярод самых пашанотных — ганаровых грамадзян горада — ажно тры пісьменнікі — акрамя нас з Алесем Ануфрыевічам яшчэ Надзея Салодкая, якая піша цудоўныя вершы, многія з якіх сталі папулярнымі песнямі. У Полацку нарадзіліся многія слынныя беларускія літаратары, таму можна толькі вітаць ініцыятыву Полацкага райвыканкама аб правядзенні такіх літаратурных чытанняў. І я дзякую ў першую чаргу ім і Выдавецкаму дому «Звязда», Нацыянальнай бібліятэцы і асабіста намесніку дырэктара Алесю Сушу за тое, што яны адгукнуліся, падтрымалі гэтую ідэю. Дзякуй таксама Віцебскаму абласному аддзяленню Саюза пісьменнікаў Беларусі і яго старшыні Тамары Красновай-Гусачэнка, якая ўзяла актыўны ўдзел у мерапрыемствах.

Арганізацыя была выдатная, і хоць графік быў вельмі насычаны, мы паспелі ўсё. Прыемна, што кіраўніцтва горада і раёна заахвочвае літаратурны рух у горадзе, чаму будуць спрыяць устаноўленыя літаратурныя прэміі. Думаецца, што гэта яскравы прыклад зацікаўленасці дзяржаўных структур у пашырэнні ролі ў грамадскім жыцці мастацкага слова, роднай мовы».



Фота Таццяны Сівец

Удзельнікі «Полацкіх сустрэч» у канферэнц-зале Нацыянальнага полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

# На хвалі «Уздыму»

У Даўгаўпілсе, дзе прайшлі Дні беларускай культуры, адбыўся творчы вечар паэта, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Станіслава Валодзькі. У Палацы культуры гучалі песні на яго вершы на беларускай, рускай і польскай мовах у выкананні хору «Promeņ» (Цэнтр польскай культуры), ансамбля «Вдохновение» (Цэнтр рускай культуры), вакальных калектываў «Пралескі», «Купалінка» і «Спадчына» (Цэнтр беларускай культуры) і беларускага таварыства «Уздым», салістаў Паўла Прозара, Сяргея Піманава, Марыны Губскай-Янсанэ, Веранікі Конан, барда Алены Віткевіч. Упрыгожаннем канцэрта стала выступленне выхаванцаў дзіцячага садка № 23 з песнямі на словы Станіслава Валодзькі. Вершы творцы прагучалі ў выкананні Галіны Сантоцкай і аўтара гэтых радкоў. Завяршыўся канцэрт сумесным выкананнем песні «Беларускі дом».

На вечарыне з прывітальнымі словамі да прысутных звярнуліся Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе Уладзімір Клімаў і дырэктар Цэнтра беларускай культуры Жанна Раманоўская.

У Падольскай сярэдняй школе Астравецкага раёна адбылася творчая сустрэча Станіслава Валодзькі з вучнямі і настаўнікамі. У вёсцы Падольцы паэт нарадзіўся і правёў свае дзіцячыя і юнацкія гады.

Настаўніца замежнай мовы, паэтэса Людміла Валодзька прадэкламавала ўласны верш, прысвечаны земляку. Станіслаў Валодзька прачытаў вершы, распавёў пра жыццё беларусаў у Латвіі, адказаў на пытанні.

Намеснік дырэктара школы па вучэбнай рабоце Святлана Лукша ўручыла госцю падарунак — пояс, вытканы вучнямі гуртка «Ткацтва» пры школьным музеі «Дарога лёну».

**Людміла СІНЯКОВА,**
**намеснік старшыні**
**беларускага таварыства «Уздым» у Даўгаўпілсе**

# Нагода для гонару

Дэвіз майскага нумара «Бярозкі» — «Я люблю ганарыцца сваім». І аўтарам матэрыялаў, надрукаваных тут, сапраўды ёсць чым ганарыцца! Падымаюць настрой вершы пра надыход вясны! Падбадзёрваюць замалёўкі пра сонейка, спевы птушак і новае жыццё прыроды.

А вось Андрэйка — герой апавядання «Сакрэт», можа ганарыцца сваім дзядулем — сапраўдным сябрам, якому можна даверыць любы сакрэт, а ўжо дамовіцца пра тое, каб ахоўваць маму ад розных хваляванняў і непрыемнасцей — не пытанне. Апавяданне пра сапраўдных сяброў і сапраўдных мужчын артымалася ў васьмікласніцы з Салігорскага раёна Надзеі Пробст.

У рубрыцы «Белліт» — яшчэ адна нагода для гонару — багаты радавод. Пісьменнік Уладзімір Ліпскі распавядае пра моцныя карані і вялікія галіны свайго роду.

Узор паэзіі на «Літаратурных старонках» прадэманструе Генадзь Аўласенка. Як у шэсць радкоў укласці ўсе адметнасці, усю прыгажосць кожнага месяца, можна павучыцца ў цыкле вершаў «Поры года».

А як сумясціць каханне, футбол, мастацтва і космас, распавядзе Алег Ждан у апавяданні «Прынцэса». Школьнае жыццё — такое неабсяжнае, рознае… Апаноўвае столькі праблем! Трэба вырашыць столькі невырашальных пытанняў. А яшчэ і на вучобу не забывацца. Як усё гэта паспець — Алег Ждан і падкажа!

**Кацярына ЗАХАРЭВІЧ**

# Досвед Нікіфароўскага

**Да 170-годдзя з дня нараджэння вядомага асветніка М. Нікіфароўскага ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка «Славутыя імёны ў гісторыі».**

М. Нікіфароўскі выдаў і падрыхтаваў да друку каля 20 работ па этнаграфіі, фальклоры і гісторыі Віцебшчыны. Грунтоўныя выданні «Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў і ўжытку», «Нарысы Віцебскай Беларусі», «Простанародныя прадметы і павер'і, забабонныя абрады і звычаі, легендарныя паданні аб асобах і мясцінах», фальклорныя зборнікі «Простанародныя загадкі», «Беларускія песні-частушкі», «Паўпрыказкі і паўпрымаўкі, якія ўжываюцца ў Віцебскай Беларусі» і сёння маюць вялікую каштоўнасць.

Больш як сорак гадоў М. Нікіфароўскі працаваў настаўнікам. У экспазіцыі — унікальныя матэрыялы, у якіх адлюстравана развіццё школьнай адукацыі на беларускіх землях у ХІХ ст. Прыцягвае ўвагу прыжыццёвае выданне «Сельско-школьное обучение в юго-восточной окраине Витебской Белоруссии, каким застает его реформа 19 февраля 1861 года».

Прадстаўленыя на выстаўцы працы іншых даследчыкаў дапамагаюць глыбей зразумець унёсак М. Нікіфароўскага у развіццё беларускай этнаграфіі на мяжы ХІХ і ХХ ст., яго ролю па выяўленні, захаванні і папулярызацыі багатай культурнай спадчыны.

**Святлана ПАЎЛАВІЦКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**15 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Мазго ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай». Мерапрыемства пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 1 імя Л. Талстога (вул.Маскоўская, 18). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**15 чэрвеня** — *у літаратурны клуб «Спадчына» пры гімназіі № 35 (вул. Кіжаватава, 70) на свята ў межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай». Пачатак а 14-й гадзіне.*

**16 чэрвеня** — *на пасяджэнне студыі мастацкага чытання «Вобраз» пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5, каб. 310). Кіраўнік — пісьменніца Наталія Касцючэнка. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**17 чэрвеня** — *на фестываль маладой паэзіі, які пройдзе ў Цэнтральнай бібліятэцы Цэнтральнага Дома афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**18 чэрвеня** — *у Школу юнага літаратара пры МГА СПБ (вул. Фрунзэ, 5). Кіраўнік — пісьменнік Міхась Пазнякоў. Пачатак а 14-й гадзіне.*

## Ірына КАРНАУХАВА



**Ірына Карнаухава нарадзілася ў г. Баранавічы Брэсцкай вобласці ў сям'і вайскоўца. Скончыла Мінскае музычнае вучылішча імя М. Глінкі і Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя М. Горкага. Аўтар 10 паэтычных зборнікаў, запісала 2 песенныя дыскі. Кіраўнік народнага клуба кампазітараў і паэтаў Мінскай вобласці «Жывіца», член Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага саюза музычных дзеячаў. Працуе намеснікам старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ.**

***

*Адкрытасць твая*
*мне была як апёк,*
*І сэрца маё зашчымела:*
*Якім жа пакутлівым будзе парог,*
*Калі перайду яго смела?!*
*Адна засталася*
*я ў цішы начной,*
*Аднак насамрэч не адна я…*
*О, мне не самотна*
*з душы чысцінёй,*
*Хоць нехта і скажа: дурная!..*

***

*Мяне акружаюць чатыры сцяны:*
*Любоў беражэ*
*звон сардэчнай струны.*
*Надзея няспынна вядзе за сабой,*
*Сумненні сцірае, як здарыцца збой;*
*А Вера мяне падымае на крылах,*
*Сцяна Аптымізму*
*дасць моцы і сілы.*

***

*Мне цуда-словы з цеплынёй*
*Прамовіў малады паэт, —*
*Вясёлка ззяе нада мной,*
*Стаў каляровым шэры свет;*
*Растаў уміг сардэчны лёд…*
*Што фраза здолела адна*
*(Так ад прастуды лечыць мёд):*
*«О, як да твару вам вясна!»*

**Пераклад з рускай Васіля ЖУКОВІЧА**

## Зміцер ЗАХАРЭВІЧ



### Радасць натхнення

*Мы з табою радасць натхнення*
*Свету не аддалі на здзек,*
*Не вымольвалі на каленях,*
*Не зважалі на блазнаў смех.*

*Мне й табе пашчасціла скеміць*
*Ні атрамантам, ні крывёй*
*Не падпісваць з д'яблавым племем*
*Згод на продаж душы сваёй.*

*Нам з табой не купляць індульгенцый*
*Ды не быць у сонме святых,*
*Бо ў такт біліся ў жарсці сэрцы*
*У нас, здольных і маладых.*

*Не звядзёмся.*
*Не знікнем.*
*Не згінем.*
*Хай зрэдчас боль выторгвае крык,*
*Аднак покуль даносіцца ў спіны*
*Брэх сабачы, гадзючы сык.*

*Значыць, выбар наш быў недарэмным,*
*Хоць з распаленых вуснаў маіх*
*Ты на волю імкнеш словам спеўным*
*Альбо быццам апошні ўздых.*

* * *

*І нібыта не такія блізкія —*
*Не спаткаліся ад колішняй зімы.*
*Дык з чаго тады начмі не спіцца ёй*
*І нашто наведваецца ў сны?*

*Збоку глянеш: недарэчныя дарослыя —*
*Прызвычаіцца б, суцішыцца ды жыць.*
*Толькі аблачынамі-пялёсткамі*
*Яшчэ хочацца абодвум варажыць.*

*І праз тое па-юнацку летуценныя,*
*Малачасныя чытаючы лісты,*
*Мы крыўдуем на нячуласць узаемную*
*Ці на неахайнасць слоў пустых.*

*І старанна словы лепшыя збіраючы,*
*Больш адчайна ўсведамляю спакваля*
*Пад прыцэлам вірлавокай памяці:*
*У яе даўно свая сям'я.*

*Не спаўе пакутамі бяссонніца,*
*Усміхнуся я тузе ў адказ —*
*Мы, канечне, з ёй такія розныя,*
*Хіба ёсць агульнага што ў нас?*

* * *

*Паэзія —*
*Гэта не гжэчная пані,*
*Да якой у замілаванні*
*Заляцаюцца кавалеры*
*І расшаркваюцца на паркеце,*
*Схіляючы да адзюльтэра.*

*Паэзія — гэта вецер,*
*Што ўскудлачвае валасы,*
*У рух прыводзячы жорны душы,*
*Каб па цяжкім іх вярчэнні*
*Наступным быў хлеб пакаленням.*

*Паэзія — гэта кропля слязы,*
*Насычаная болем і попелам*
*Бамбардаванага сэрца-Акропаля,*
*Якое заходзіцца з палам паўстанца:*
*— Не здамся.*
*— Не здамся!*
*— Не здамся!!!*

*Паэзія — у буславым клёкаце*
*На муры сівой княскай вежы*
*Над лясньмі шнурамі сцежак,*
*Што ляжаць на далонях Айчыны,*
*Як каханая — толькі адзінай,*
*У светлым прамені месяца.*

*Паэзія…*

* * *

*Слязьмі і лусту хлеба не падсоліш,*
*Няма ні забыцця, ні праўды у віне —*
*Усё, што ёсць, што будзе, праміне…*
*Аднак пакуль яшчэ сузор'яў жырандолі*
*Скрозь ноч дарогу асвятляюць мне.*

## Алег САЛТУК



### На радзіме

*Завалакло туманным дымам*
*Над вёскай ранішнюю высь.*
*Жыве маленькая радзіма,*
*І я з радзімаю жывы.*

*Нягуста, праўда, тут народу,*
*Затое птаства — божа ж мой!*
*Ды зелянеюць шчэ гароды,*
*Звіняць ключы жывой вадой.*

*У выхадныя панаедуць*
*На пікнікі і шашлыкі…*
*А покуль што вядуць бяседу*
*Са мной жывыя землякі.*

*Яны свой кут не пакідаюць*
*І слоў сваіх, сваіх высноў…*
*Дым белай квецені растае*
*Да цёплых стрэч і светлых сноў.*

### Зямлянкі

*Ногі наліваюцца свінцом*
*У дарозе да былой зямлянкі:*
*Чую самалётаў грукат-гром,*
*Чорныя, чужыя бачу танкі.*

*Зараслі зямлянкі, зацвілі*
*Сон-травой і верасам ружовым.*
*Лётаюць не кулі, а чмялі,*
*І не міны вухкаюць, а совы.*

*Цішыня паўсюль стаіць да дна,*
*Кроны дрэў у вышыні спляліся.*
*Хто сказаў, што скончана вайна?*
*Не — яшчэ зямлянкі засталіся.*

*Галасы варожыя чуваць:*
*— Што мы з вамі з той вайны займелі?*
*Я магу на гэта адказаць:*
*— Усё тое, што вы не хацелі!*

### Падарожжа

*Мы пад Рудняю.*
*Хутка мяжа*
*Ды лугі з пралескамі тыя,*
*Што стагоддзі яшчэ праляжаць*
*На радзіме маёй і ў Расіі.*

*Прагудзіць сам сабе дызялёк,*
*І вагоны прыпыняцца снула.*
*А ў базарны заюшлівы бок*
*Пацякуць хатулі і баулы.*

*Ездакі, хадакі, гандляры,*
*Прадпрымальнікі, спекулянты*
*Накупляюць танней разы ў тры*
*Нейкіх там заляжалых трантаў.*

*Потым сядуць у той жа цягнік,*
*Каб вярнуўшыся, распрадацца…*
*Я ж сваім здавальняцца прывык,*
*Таму трэба хутчэй развітацца.*

*Сярод гэтых сваіх — чужы.*
*Не да жарцікаў мне і кпінаў…*
*На пракладзенай д'яблам мяжы*
*Пыл сівы стаіць — ад палыну.*

### Час

*Я час з ахвотай раздаю:*
*Хвіліну роўна за хвіліну.*
*Вясну пакіну салаўю,*
*А восень груганý пакіну.*

*Яны не стрэнуцца ніяк,*
*Ды і не трэба ім страчацца:*
*Адзін спяваць здавён мастак,*
*Другі — крычаць, каб накрычацца.*

*Абодвум часу не шкада.*
*І лёс у птушак не сірочы…*
*Груган крычыць, то не бяда —*
*Салоўка чуць яго не хоча.*



Фота Кастуся Дробава

Валянцін ТОДАРАЎ

# Бацькаў пасаг



Ілья круціў у руках свой фотаздымак і ніяк не мог зразумець: чым ён незвычайны. Колькі іх за час фотакарэспандэнцтва давялося яму зрабіць! Былі фотарэпартажы «прахадныя», калі ён здымаў з ходу, а калегі-карэспандэнты пісалі тэксты з месца падзей. Былі прафесійныя ўдачы, калі і святла хапала, і кампазіцыя па сюжэце была дынамічнай і змястоўнай.

Ён шчыра любіў дзяцей. Тыя адчувалі яго сардэчную шчодрасць. Ілья быў рады сваім удалым работам, але, як і ўсякі мастак, жыў чаканнем нейкага асаблівага фотапоспеху.

А здымак гэты так сабе — нішто, «бытавуха»…

Тут, на возеры, ён гасціў даволі часта. Спыняўся толькі ў Адамаўны. Так здарылася, што яе дачцэ ў Мінску спатрэбілася тэрміновая дапамога: трапіла ў аварыю. Журналіст Ілья выпадкова аказаўся побач, вызваў «хуткую», дапамог пры лячэнні, а потым — уладкавацца на працу, у інтэрнат. Ад удзячнасці яе матулі, Адамаўны, катэгарычна адмовіўся. Толькі час ад часу адпачываў у яе ўлетку, каб парыбачыць ці схадзіць з сям'ёй у лес. Ды неўзабаве стаў для гэтай сям'і блізкім чалавекам.

Дом у Адамаўны вялікі. І стаіць амаль на самым беразе возера. Летам тут збіраюцца дзеці, унукі і праўнукі. Месца хапае ўсім.

Асвоіўшы рыбацкія мясціны, Ілья купіў човен, замыкаў яго ланцугом на беразе. А ключ аддаваў Адамаўне. Тады ўжо яна кіравала «флотам».

З вудамі на возеры, з кошыкам у лесе, у вясковай лазні на самым беразе возера, што талакой збудавалі сяляне, Ілья адпачываў. Сілкавала азёрнае паветра з пахам водарасцяў і лугавых траў. Хворае сэрца білася больш роўна, прымаў менш лекаў. Распранаўся да пояса і гадзінамі хадзіў па беразе басанож. Шаравары не здымаў — саромеўся параненых на вайне ног. Ды і не дазвалялі мужчыны яго пакалення сабе такіх вольнасцей…

Гісторыя з фатаграфіяй пачалася з таго, што ўнучка Адамаўны Аленка ў дзень нараджэння падарыла сваёй любімай цётачцы Галі — старэйшай дачцэ Адамаўны — прыгожыя лайкавыя пальчаткі. Тая ўзяла іх са здзіўленнем, пагладзіла прыгожую эластычную скуру, уздыхнула. А потым з лёгкім шкадаваннем адсунула:

— Не па мне гэты падарунак. Забірай іх сабе, Аленка. Ты ў нас модніца, табе яны больш пасуюць. Куды ж мне на парэпаныя рукі такую прыгажосць?

Аленка з усёй шчырасцю настойвала, каб цётачка прыняла падарунак.

Але тут умяшалася Адамаўна і прапанавала: пальчаткі застануцца ёй, а наўзамен яна падорыць імянінніцы вялікую шарсцяную хустку. З маляўнічымі кветкамі, яна была козырам мясцовай моды і, напэўна, Галінай марай. Пааднекваўшыся дзеля парадку, Галя з задавальненнем прыняла падарунак.

Потым да Адамаўны перайшла Аленчына доўгая сукенка, растачваць якую было ўжо немагчыма. А яшчэ праз нейкі час Адамаўна выменяла ў заезджых дачнікаў саламяны капялюшык.

У жніўні наведаўся Ілья. Асцярожна дастаў з багажніка сваю апаратуру. На традыцыйную прапанову сфатаграфавацца Адамаўна ўжо не адказала адмовай, а какетліва папрасіла пачакаць і пайшла пераапранацца.

Здзіўленню ўнукаў і праўнукаў не было мяжы, калі з сенцаў на ганак выйшла прывабная жанчына ў вячэрняй сукенцы, саламяным капялюшыку, элегантных пальчатках і з лёгкім парасонам. Дзятва вішчала ад захаплення. Ілья адрэагаваў прафесійна: імгненна зрабіў некалькі здымкаў.

Па наступным прыездзе Ілья не спяшаўся паказваць фота. Але Адамаўна відавочна чакала. Калі ж яны засталіся ўдвух, Ілья моўчкі працягнуў партрэт. Адамаўна схамянулася. Углядаючыся ў фотаздымак, яна то падносіла яго бліжка да вачэй, то адводзіла на адлегласць выцягнутай рукі.

Нейкі час маўчалі. Нарэшце на твары Адамаўны з'явілася задаволеная ўсмешка.

— Ну зусім я атрымалася як паннячка тая. Толькі яна была маладзейшай за мяне сённяшнюю — гадкоў на сорак!

Памаўчаўшы з хвілінку, ціха пачала расказваць.

— Пасля вайны з палякамі мы засталіся на гэтым баку возера — пры Польшчы. А той бок адышоў да Саветаў. Жаўнеры збудавалі ў нас стражніцу і на бераг нікога не пускалі. Кардон ішоў па возеры. Увесь бераг быў зацягнуты калючым дротам — бялізну вальком адбіць было недзе. А на процілеглым беразе самыя грыбы, дровы. Зямлі ў нас было небагата, а сямейка ёмкая. Давялося зноў ісці ў наём да пана. Бацька наш батрачыць больш не захацеў, сабраў мужычкоў, і падаліся яны ў Амерыку на заробкі.

Тым часам у родную вёску вярнуўся наш сусед Мікола. Ён быў матросам у гандлёвым флоце. І па марах-акіянах гады за два аб'ехаў увесь свет. Прывёз розныя дзівосныя рэчы. Але галоўным яго здабыткам былі ўражанні ад далёкіх краін, дзе не бывае зімы, ад вялікіх гарадоў, ад жыцця за мяжой, ад іншаземных традыцый... А ў святочныя дні праходзіўся па засценку ў белым кіцелі, шырачэзных «клёшах» і бліскучых чаравіках. Па вясні Мікола зноў збіраўся ісці ў мора.

> *У жніўні наведаўся Ілья. Асцярожна дастаў з багажніка сваю апаратуру. На традыцыйную прапанову сфатаграфавацца Адамаўна ўжо не адказала адмовай, а какетліва папрасіла пачакаць і пайшла пераапранацца.*

Вечаровай парою даймала моладзь, прасілі распавесці што-небудзь цікавае. Прыходзілі і хлопцы з гармонікам, бубнам, балалайкай. А дзе музыка, там, як вядома, песні ды гулянка.

Кавалерам Мікола быў зайздросным. Ды і чалавек цікавы — пабачыў жа свет! Не брыдкасловіў, не піў. А больш за ўсё дзяўчатам падабалася яго далікатнасць, вясёлыя і дасціпныя жарты. Хацелася і мне прыцягнуць яго ўвагу. Ды дзе там! Якая магла быць у яго цікаўнасць да парабчанкі, што з ранку да вечара працавала на пана, каб дапамагчы маці пракарміць сям'ю? На вечарынах, так-сяк прыбраўшыся, я церлася ў дзявочым гурце, зусім не спадзеючыся на асабістае шчасце.

Аднойчы ў маёнтку я ўбачыла, як у садок выйшла маладая пані. На ёй была прыгожая сукенка з прыколатай ружай, капялюшык, а ў руках — пальчаткі і парасончык ад сонца. Яна была такая прыгожанькая, што не магла вачэй ад яе адвесці. Употай цікавала за ёй і думала: вось каб мне толькі адзін раз так апрануцца і прайсціся надвячоркам па вуліцы! Усе б убачылі, што і постаццю я ладненькая, і з твару прывабная. Вось тут не абмінуў бы мяне Мікола, была б самай шчаслівай на свеце!

Але здарылася неверагоднае: Мікалава маці спытала, ці не магу я разам з кім іншым дапамагчы зжаць іх палоску, бо сама занядужыла. А тут пагоды стаяць… У мяне ажно сэрца закалацілася ад такой прапановы. У працы спрытная, а сярпок мне каваль назубіў, як вужаку. Мяне часцяком клікалі на падмогу. А тут яшчэ і выпадак быў асаблівы…

Выйшла я з расой і, не чакаючы нікога, пачала зажынкі. Крыху пазней падышлі яшчэ жнеі. Калі ж узышло сонейка, прыйшоў Мікола і пачаў зносіць снапы. Ды ўтаропіўся ў мяне сваімі палаючымі, як вугалле, вачыма і не адводзіў іх, бессаромнік, убок. Мне так прыемна было, што нават не зважала на касыя погляды таварак. Магчыма, яму спадабаўся мой спрыт у жніве, а можа, штосьці іншае ўгледзеў… Але ж і мне нябачаную сілу Гасподзь у той дзень дараваў. Удвая больш я «вылупіла» збажыны, чым сяброўкі, а стомы — аніякай! Яны знясілелі да абеду, а мне хоць бы што.

Ваду Мікола ліў на рукі толькі мне. Яго бацька прывёз нам на поле абед. Жніво закончылі, калі сонца было яшчэ высакавата. А я сабрала свой хатуль і ўжо клала серп на плячо, як падышоў Мікола і сарамліва спытаў, ці буду я надвячоркам на майданчыку, змаглася ж, мусіць, ад такой працы… Уваччу ў мяне зашчымела, сэрца замерла, але выгляду не падала:

— А што ж цэлы вечар дома адной рабіць? З меншымі мама і сама ўправіцца. Прыйду!

У той вечар ён быў незвычайна маўклівы і ўвесь час стаяў побач са мной. Між іншым сказаў, што ў мора яму ўжо не хочацца: там адна марока. А мне ў гэты час былі так патрэбны строі пані — як паветра! Нават дыхаць цяжка было.

Да касцёла я пайшла з Міколам у зрэбнай вышыванцы. З тае пары мяне ў вёсцы Матросіхай і клічуць. І першынца майго, хлопчыка, суседзі Матрасёнкам нараклі.

Мая мара збылася, як вярнуўся бацька. Ён прывёз у вёску дзве фурманкі рознага дабра. І быў сярод іншага дарагі для мяне падарунак — аршынаў восем незвычайна прыгожага бялюткага кітайскага шоўку. Пакунак той у мяне захаваўся. Але сукенку сабе тады пашыць не магла — не знайшлося краўчыхі, якая асмелілася б узяць у работу такую прыгажосць. Ды і пасля смерці бацькі не да таго было. Увосень трыццаць дзявятага года — у мяне было ўжо трое дзетак — ля стражніцы пачалася страляніна. Я з дзецьмі схавалася ў склепе. Адтуль пачула, як на вуліцы крычалі людзі — паноў прагналі. Тут я і зразумела, што ад радасці стралялі ўгару.

У былым панскім фальварку арганізавалі калгас. Вось тады для новага жыцця і захацелася мне пашыць прыгожую сукенку. Ды і з тканінамі свабадней стала, і Мікола цешыў мяне падарункамі. Аднак за шыццём паркалёвых ды бумазейных сукенак сабе і дачушкам да галоўнага майго ўбору рукі не даходзілі. Вось і звыклася з тым, што ёсць у мяне скарб — бацькаў пасаг як трывалая надзея на нешта лепшае, што наперадзе.

А наперадзе была вайна. На трэці дзень забралі майго Міколу ў войска. Потым немцы прыйшлі, і зноў горкія дні. Жыла адна з чатырма дзецьмі. Але жылі ж людзі, і мы неяк жылі. Дзетак толькі шкада, што з маленства давялося ім гора вялікае спазнаць.

У вайну зачасцілі да нас партызаны. Калі іх мала было ці з параненым ішлі, то ўсё ў бяднейшую хату зварочвалі. Звару чыгун бульбы, капусты з дзежкі пастаўлю на стол — прабачце, кажу, больш нічога няма.

У блакаду цяжкія баі былі. Шмат палегла, многа параненых было. І вось прыйшоў з лесу настаўнік, ён у атрадзе камісарам быў, і кажа: палатна трэба — параненых перавязваць. Тут сабраліся жанчыны ды ў адзін голас: а дзе ж мы возьмем?! Час такі, што лёну не сеем, не прадзём, і ткаць няма чаго. Ручнікі з бажніц паздымалі, аддалі. Хоць ты нямецкія газеты чапляй, бо ў хаце гола. Ды Бога баімся.

А ён сваё: трэба, жанчынкі, трэба. Вы ўжо як-небудзь перабіцеся. Немцаў пераможам — лягчэй будзе. Пашукайце, прасіць, бо балюча глядзець, што на роднай зямлі няма чым параненых перавязаць, а там жа вашы мужы, браты, дзеці. І на мяне зірнуў:

— Можа, і твой Мікола, Адамаўна, увесь у крыві ляжыць. Няўжо рускія жанчыны яму лапік не знойдуць, каб раны перавязаць?

Як уявіла сабе Міколу ў крыві — у вачах пацямнела, ажно нутро закалацілася. Не памятаю, як кінулася з дому, як знайшла ў хляве схаваны скрутак з шоўкам і прынесла камісару. Тут толькі дала волю слязам.

Як разгарнуў — усе жанчыны заплакалі і пайшлі па хатах: хто па хусцінку, хто па ручнік, хто па сарочку. Пакланіўся мне камісар ды і кажа:

— Калі жывы буду, то з-пад зямлі дастану такую ж тканіну! Нам бы толькі ворага адолець.

Ён бы вярнуў. Сумленны быў чалавек, слоў на вецер не кідаў. Але падчас прарыву блакады загінуў. Пахаваны ў раёне — на плошчы. Ты ж, Фаміч, помніш, калі перазахоўвалі пасля вайны.

Чалавек мой вярнуўся дадому ўвесь зранены. Сядзібу нашу немцы, як адступалі, спалілі. Калі прыйшлі нашы, то сям'і далі лесу. Тады Мікола са старэйшым сынам і хату, і хлеў, і клець, і склеп — усё сваімі рукамі паставілі. Скончылі працу, Мікола мне і кажа:

— Дзякуй богу, управіўся! Цяпер і памерці можна.

Я ж яму: здурнеў, чалавеча! Зараз толькі жыць ды жыць — дзяцей падымаць.

А ён — не. Даруй, Ганка, але сіл няма — усё аддаў вайне і дому. Мне за гэта не сорамна. І памёр.

Замуж другі раз я не пайшла, бо ўжо і ўзрост не той, і дзяцей саромелася. А можа, іншага не шукала таму, што надта свайго Матроса кахала. Працавала ў калгасе, дома трымала жывёлу, курэй, круцілася як магла, пакуль дзеці на ногі не сталі. Цяпер ужо вунь і ўнукі пажаніліся. Можа, і грэх? Але з іх Сашачку вылучаю. Дачка мая памерла, калі ён яшчэ маленечкі быў. Дык я яго выпеставала, як сынка. А яшчэ ён мне абліччам і постаццю майго Матроса нагадвае. Толькі да яго аднаго на зіму ў горад пераязджаю.

Сілы, вядома, ужо не тыя. Але на здароўе скардзіцца не магу — па гадах яно. Па бальніцах не езджу. Так што не надта на мне дактары заробяць. Але ж сурочыць баюся.

Ну, а прыбрацца, як тая пані, мне ўсё жыццё хацелася. Вось і апранулася…

Узрушаны такой споведдзю, Ілья Фаміч з вялікай павагай узяў здымак і прымацаваў яго цвічком пад абразамі.

— Хай пакуль так пабудзе. Тут, пад бажніцамі, яму самае месца. Наступным разам у рамку ўстаўлю.

# На спадзяванні адгукнуцца

## ЗНАЧНЫЯ ДАТЫ

У майскіх нумарах часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Нёман» змешчана нямала цікавых тэкстаў, многія з якіх прымеркаваны да значных гістарычных і літаратурных дат. Шмат роздумаў і ўспамінаў прысвечана Другой сусветнай вайне. Ваенныя дні ў нязвыклым ракурсе апісаны ў дакументальнай прозе вядомага беларускага філатэліста Льва Коласава, які жыў разам з бацькамі ў акупаваным Лунінцы.

Калі «Акупацыя» Л. Коласава, апублікаваная ў «Полымі», напісаная паводле хлапечых успамінаў, то герой дакументальнай аповесці Уладзіміра Ландэра «Салдат вайну не абірае» («Нёман») — былы франтавік, вайсковец і журналіст Мікалай Дуброўскі. Твор напісаны ў выніку шэрагу сустрэч-інтэрв'ю, пра якія У. Ландэр распавядае ў прадмове. Як зазначае аўтар, М. Дуброўскі схільны не прыхарошваць, а «зазямляць» ваеннае жыццё.




Мастацкіх твораў пра вайну ў часопісах таксама нямала: у «Полымі» — паэма Сяргея Давідовіча «Хатыні вечныя званы» і апавяданне Алеся Дзятлава «Спагадлівая душа», у «Нёмане» — апавяданне Платона Бяседзіна «Дзень Перамогі», у «Маладосці» — апавяданне Алены Васілевіч «Пісар страявой часці» з рукапісным зваротам аўтаркі да маладога чытача. Між ваеннай прозы самым адметным падаецца кароткае апавяданне вядомага расійскага пісьменніка Юрыя Бондарава «У прасторы тысячагоддзя», дзе аўтар звяртаецца да трохкутніка «жанчына — салдат — вайна». Пазіцыя Я-героя вельмі блізкая да погляду салдата-беларуса ў апавяданні Максіма Гарэцкага «На этапе»: аднолькавая праблематыка робіць гэтыя творы суадноснымі, нягледзячы на часавую адлегласць. Празаічная падборка Ю. Бондарава «Імгненні» складаецца з невялікіх мастацкіх твораў і публіцыстычных эсэ («Нёман»).

Іншыя значныя даты, якія знайшлі адлюстраванне ў часопісных публікацыях — гэта юбілеі Васіля Зуёнка і Уладзіміра Ліпскага. З У. Ліпскім — аўтарам шматлікіх кніг, галоўным рэдактарам часопісаў «Вясёлка» і «Буся» — на старонках «Полымя» размаўляе Зіновій Прыгодзіч, а ў «Маладосці» Уладзімір Сціпанавіч сам расказвае пра сябе і свой род, прадстаўляе юбілейныя вершыкі-«ўліпкі», напісаныя ў студзені.

Васіль Зуёнак на працягу 1966 — 1982 гг. быў намеснікам галоўнага рэдактара, а потым і галоўным рэдактарам «Маладосці», таму размова з вядомым паэтам у родным выданні — гэта «тры весткі з маладосці любімага пісьменніка, тры весткі з «біяграфіі» часопіса». Вершы В. Зуёнка, верагодна, пакінуць найлепшае ўражанне ў параўнанні з іншымі паэтычнымі старонкамі нумара. «Маладосць» знаёміць чытача з творчасцю некалькіх маладых аўтараў, але класічныя рыфмаваныя вершы піша толькі Кацярына Захаравіч. Верлібры іншых аўтараў можна «на месцы» параўнаць з творамі гэтага ж жанру сербскага паэта Ранкі Радваіча (перакладчык — Марыя Кобец). Размова пра верлібры ўжо рыхтуецца для чарговага нумара «ЛіМа», дзе аўтары «Маладосці» трапяць у добрую кампанію маладых літаратараў.

## З НІЖНЯГА НОЎГАРАДА

Творы замежных пісьменнікаў ёсць у кожным часопісе, прычым у «Нёмане» гасцюе «Сябрына», і адпаведна, тут прадстаўлены творы толькі расійскіх аўтараў. Між празаічных публікацый самым запамінальным стаў фрагмент рамана Захара Прылепіна «Прыстанак». Твор апублікаваны ў мінулым годзе і ўганараваны прэміяй «Вялікая кніга». Першая кніга рамана — гэта магчымасць на некалькі




дзён патрапіць у Салавецкі лагер асаблівага прызначэння. Лагернае жыццё ўражвае не столькі жорсткасцю, колькі кантрастамі: размовы па-французску між загадчыкам лагера Фёдарам Эйхманісам і бруднымі абарванымі зэкамі, планы стварэння школы для вязняў з гурткамі замежных моў, цяганне з вады мокрых бярвёнаў пад оперныя спевы... «Усё гэта падавалася недарэчным — паесці траску, а потым прагульвацца ўздоўж нараў і раптам пацікавіцца: вось вы нядаўна вялі размову пра сімвалістаў...». Галоўны герой — разумны малады чалавек Арцём, які мае пакуль неблагое здароўе і знаходзіцца ў лагеры зусім нядоўга. Для яго, як і для чытача, мясцовае жыццё — гэта свет парадоксаў і няўцямных, дзіўных законаў. Складана зразумець, хто за што сядзіць, хто каго падтрымлівае, хто кім з'яўляецца на самай справе. Неблагі, прыемны ў стасунках хлопец-паэт, які прапануе збегчы, можа быць стукачом, а богабаязны мужычок, які выклікае спагаду, раптам становіцца забойцам...

Другі празаічны твор, які звяртае на сябе ўвагу, належыць Яўгену Шышкіну — таксама расійскаму і таксама ніжагародскаму аўтару. Аповесць «Канцэрт» перакладзена на беларускую мову Максімам Пятровым і апублікавана ў «Полымі». Сюжэт можа падацца знаёмым многім беларускім чытачам. Чацвёра артыстаў філармоніі едуць на выступленне ў калгас «Светлы шлях», дзе іх сустракаюць персанажы, тыповыя для сельскай глыбінкі. Мерапрыемства прымеркавана яшчэ да аднаго свята — Першамая. Нягледзячы на спачатку скептычны настрой артыстаў, канцэрт атрымліваецца ўдалым. Выступоўцы імкнуцца захапіць аўдыторыю, у чым дапамагае як талент, так і адчуванне душэўных патрэб простага чалавека.

Пасля канцэрта аўтар пакідае зачараваных поспехам герояў у паўзмроку грымёркі: «Сённяшні канцэрт не прынёс ім ні славы, ні прыбыткаў да нізкіх філарманічных ставак, але ўнёс у душу пачуццё нейкай своеасаблівай спрычыненасці да нечага вялікага, і ўсе баяліся спалохаць гэтае пачуццё...». Схільнасць артыстаў да чаркі мае вынікам безнадзейнае заканчэнне твора. Вяскоўцы зайздросцяць гасцям, мяркуюць, што «жыццё ў іх насычанае і ўдачлівае, радасць змяняецца радасцю, усюды пашана, хвала ды букеты кветак», але насамрэч гэта зусім не так...

Чым адрозніваецца проза Я. Шышкіна і З. Прылепіна ад твораў многіх беларускіх пісьменнікаў, дык гэта частай зменай настраёвасці ў аповедзе. Уменне змадуляваць настрой чытача вельмі важнае для літаратуры. Смутак, здзіўленне, расчараванне, якія чаргуюцца між сабой, патрэбныя, каб праз суперажыванне чытач на эмацыянальным узроўні прыняў вылучаную ідэю альбо апынуўся ў прадугледжанай творцам разгубленасці. Сапраўды, што называюць вялікім мастацтвам? Натхненне і таямніцу? Махлярства і тонкі падман? Майстэрства і здольнасць адгукнуцца на спадзяванні гледача? Што замінае чалавеку жыць узнёсла і годна — хіба не патуранне ўласным нядобрым жаданням?.. Замест доўгіх разваг на гэты конт у аповесці Яўгена Шышкіна ёсць нямала гумарыстычных эпізодаў. Менавіта таму твор павінен спадабацца самым розным людзям.

## ДЫЯЛОГІ

З беларускіх празаікаў варта ў першую чаргу назваць імя Міколы Каляднага, які прадстаўляе ў «Маладосці» пачатак метагістарычных эцюдаў «Ільвінае вока». Аўтар любіць дыялогі, мае адметны стыль, сцісла і ёміста распавядае пра Беларусь (Літвінію) і яе адвечныя праблемы. Апісваецца ў творы і Самбала — «мясціна вышэйшага чалавецтва і правідэнцыйных сіл». Сюды ў ліку абраных трапляе ліцвін Кастусь, каб навучыцца творчасці...

Надрукаваныя ў «Маладосці» апавяданні «Даруй мне, Дварняг» Кацярыны Захаравіч, «Шкляны ліфт» і «Жук-магіль-нік» англійскай пісьменніцы Кэрал Фарэлі (пераклад Марты Філіпоненка) прысвечаны тэме сямейных узаемаадносін. Увага звярнута на непаразуменні між сынам і бацькам, няздольнасць дзіцяці зразумець строгія дарослыя




патрабаванні, бездапаможнасць малечы пры сутыкненні з хваробай старэйшых людзей. Складаныя дачыненні між блізкімі сваякамі — праблема, істотная для сучаснай літаратуры. Апавяданне суправоўніцы «Бярозкі» годна выглядае побач з творамі яе замежнай калегі.

У «Полымі» і «Маладосці» змешчаны і цікавыя тэксты для тых, хто займаецца гісторыяй беларускай літаратуры. У палымянскай рубрыцы «Навуковыя публікацыі» Людміла Сінькова і Мікола Трус звяртаюцца да творчасці Уладзіміра Жылкі. Л. Сінькова аналізуе паэзію Жылкі, выяўляе яго «своеасаблівы дыялог з асобнымі матывамі, вобразамі, інтанацыямі А. Блока». М. Трус прапануе «рэтраспектыву беларуска-чэшскіх культурных узаемадачыненняў», звяртаецца да дзейнасці Жылкі-перакладчыка. Пераклад апавядання І. Волькера, зроблены У. Жылкам змешчаны ў рубрыцы «Спадчына».

Яшчэ адна асоба з 1920-х гадоў, пра якую вядзецца гаворка ў «Полымі» — Цішка Гартны. Раздзелы з рамана «Сокі цаліны» пачалі друкавацца ў часопісе з пятага нумара 1925 года. Пра жыццё і творчасць пісьменніка, пра першы беларускі раман распавядае Алесь Маліноўскі.

У рубрыцы «Крытыка» часопіса «Маладосць» змешчаны артыкул Маргарыты Пятуховай «Гісторыя Беларусі ў інтэрпрэтацыі Язэпа Драздовіча на матэрыяле рамана Я. Драздовіча «Гарадольская пушча». Артыкул праілюстраваны малюнкамі Я. Драздовіча, а яго вершы змешчаны ў якасці дадатку.

За межамі гэтага кароткага агляду застаецца нямала імёнаў і твораў, вартых увагі чытача. Многія з іх яшчэ будуць узгаданы на старонках «ЛіМа».

**Янка НАТАВЕЦ**

# Дапаможа вера

Сучасная творчасць Уладзіміра Крупіна злучае рускую класіку сярэдзіны XX стагоддзя і літаратуру XXI стагоддзя. Пісьменніцкую дзейнасць У. Крупін бачыць як асаблівую форму служэння Богу. Творца ўпэўнены, што праблема духоўнага адраджэння Айчыны як ніколі актуальная сёння, і шукае шляхі яе вырашэння.

У апавяданнях, аб'яднаных у цыкл «Малітва маці» і апублікаваных у часопісе «Нёман», выяўляюцца асноўныя духоўна-маральныя арыенціры пісьменніка. Невыпадкова адкрывае цыкл гісторыя пра дзяўчынку, якая хоча паказаць у адной літары самае важнае ў яе жыцці: сям'ю, Радзіму, навакольны свет («Кацina літара»).

Тэма дзяцінства для Крупіна асабліва значная: у гэты час закладваюцца асновы светапогляду новага пакалення — будучыні краіны. Пісьменнік акцэнтуе ўвагу на пазітыўных рысах сучасных дзяцей, якія часта страчваюць дарослыя. А гэта ж так проста — быць працавітымі («Падкова»), добрымі («Саколка»), цаніць тых, хто побач («Папяровыя ланцугі», «Аб'явы на слупах»). Крупін упэўнены: «Дзяцінства мацнейшае за ўсё астатняе жыццё». Асновы маральнасці, закладзеныя ў дзіцячыя гады, дапамагаюць не разгубіцца ў сталасці.

Творчы шлях Уладзімір Мікалаевіч пачынаў як прадстаўнік «вясковай прозы», адлюстроўваючы няпросты лёс рускай вёскі другой паловы XX стагоддзя, падзеі, якія адбываліся ў грамадстве, з пункту гледжання вяскоўца. Уплыў гэтых знаходзім і ў апавяданнях «Ціхі воз на гары будзе», «Упарты стары».

Праз усю творчасць У. Крупіна праходзіць захапленне прыгажосцю рускай прыроды. У апавяданнях «У заліўных лугах», «Ліст гарлачыка» аўтар паказвае, што прыгажосць свету цесна звязана з душэўнай прыгажосцю.

Крупін перакананы: як бы ні складалася жыццё, чалавек гаспадар свайго лёсу. Кожны сам вырашае, хто ён сабе: сябар ці вораг («Люстэрка»). У апавяданнях «Малітва маці», «Зімовыя прыступкі» пісьменнік расказвае пра веру, якая аб'ядноўвае людзей як на ўзроўні сям'і, так і на ўзроўні грамадства.

Такім чынам, у цыкле «Малітва маці» творца звяртаецца да фундаментальных маральных паняццяў: патрыятызм, шчырасць, каханне, адказнасць, вера, дабрыня, альтруізм, бескарыслівасць, чуласць. Сінтэз новых метадаў і правераных часам ідэй натхняюць пісьменніка ў пачатку XXI стагоддзя на актуальныя і эстэтычна значныя творы.

**Аляксандра КАБЫЛКОВА**

# Ірына ШАЎЛЯКОВА:

# «Чакаю раптоўнага буму супольных праектаў»



**Крытык і літаратуразнаўца Ірына Шаўлякова на працягу некалькіх гадоў была сталым супрацоўнікам «ЛіМа». Ірына Леанідаўна — загадчык адукацыйнага аддзела Нацыянальнага інстытута адукацыі. Размова з даследчыцай прысвечана сучаснай сітуацыі ў беларускай літаратуры.**

**— Спадарыня Ірына, доўгі час вы пісалі ў нашай газеце пра літаратурныя навінкі. Ці вылучылі вы для сябе ў той час асабліва цікавыя імёны? Ці сочыце за творчасцю гэтых аўтараў?**

— Калі параўноўваць пачатак 2000-х і цяперашні час (мінула 15 год), то назаву імёны Віктара Жыбуля і Веры Бурлак, вядомай як Джэці. Яны згадваліся ў тагачасных публікацыях, даволі часта размова пра іх ідзе і сёння — у артыкулах, у прафесійных спрэчках.

**— Ці насамрэч камп'ютарызацыя грамадства небяспечная для мастацкай літаратуры?**

— Не хацела б быць беспадстаўным аптымістам ці спрачацца з рэчамі відавочнымі. Мы перажываем сур'ёзныя, глабальныя змены інфармацыйнай рэальнасці. Яна заўсёды змяняецца, і мы ў гэтым сэнсе знаходзімся ў эпіцэнтры цікавых часоў. Але я не бачу суцэльнай катастрофы. Мастацтва слова, мастацкая літаратура — такая ж частка інфармацыйнай рэальнасці, як і ўсё астатняе — як камп'ютар, жалеза, праз якое гэта слова даходзіць да значна большай колькасці людзей. Так, змяняецца ў нейкім сэнсе паэтыка мастацкага твора, мімікруючы пад новыя формы бытавання, але рэчы сутнасныя застаюцца — змяняецца форма іх экзістэнцыі. Таму для мяне камп'ютарызацыя — гэта веер шыкоўных дадатковых магчымасцей, якіх не мела пакаленне нашых бацькоў. Так, у гэтым ёсць рызыкі: напрыклад, можна абысціся без удзелу рэдактараў ды карэктараў, адразу выкласці твор на які-небудзь інтэрнэт-рэсурс, каб скарацідь шлях тэксту да чытача. Ёсць пагроза стацца аб'ектам кпінаў з-за незаўважаных «унутраным рэдактарам» стылявых казусаў, памылак... Але я мяркую, што любыя новыя магчымасці, правы абавязкова ўраўнаважваюцца дадатковай адказнасцю.

> *Мы перажываем сур'ёзныя, глабальныя змены інфармацыйнай рэальнасці. Але для мяне камп'ютарызацыя — гэта веер шыкоўных дадатковых магчымасцей, якіх не мела пакаленне нашых бацькоў.*

Самая важная дадатная рэч для мастацкай літаратуры — гэта пашырэнне спектра магчымасцей, безбар'ернасць, бясконцая колькасць траекторый выбару. Я магу сама фарміраваць сваю траекторыю чытання, магу стварыць уласную бібліятэку — хоць седзячы на хутары, хоць у цэнтры немалога горада. Я як чытач раблюся больш вольным. Калі ж казаць пра літаратурна-мастацкую перыёдыку, варта думаць пра тое, як выданне пазіцыянуецца ў інфармацыйнай прасторы — як прадстаўляецца, як камунікуе з чытачом.

**— Звяртаюць увагу і на тое, што ў камп'ютарны час прафесійны чытач часта не прыкладае намаганняў, каб напісаць рэцэнзію, а абмяжоўваецца кароткай рэплікай на LifeJournal...**

— Змяняецца жанравая структура крытыкі — як і літаратуры. Калі ў 1990-я гады самым запатрабаваным жанрам быў вострыя праблемна-аналітычны артыкул, а на своеасаблівым другім месцы (з гэтым можна спрачацца) знаходзілася рэцэнзія, то цяпер безумоўны жанравы лідар — гэта рэцэнзія памеру анатацыі, рэкламнага флаера. Гэта змены аб'ектыўныя, бо жанравая структура літаратуры рэагуе на глабальныя змены ў культурнай свядомасці чалавецтва. Але вяртанне да рэчаў аналітычна-праблемнага кшталту, на мой погляд, непазбежнае. Бо без панарамнага погляду на літаратурны працэс не можа існаваць не толькі пэўнае выданне, але і сам літпрацэс. Колькі б ні «пляжылі» сёння айчынную крытыку, другая па запатрабаванасці постаць пасля чытача ў нашым літаратурным працэсе — гэта постаць крытыка. Калі ён зацікаўлены ў тым, што піша, то незалежна ад таго, дваццаць гадоў крытыку ці семдзесят, ён будзе чаканым госцем у любой рэдакцыі!

**— З'яўляецца нямала новых кніг і твораў, а крытыкі альбо спецыялізуюцца на пэўным жанры, альбо цікавяцца пэўным колам аўтараў і пакідаюць без увагі іншых. Цяжка згадаць артыкулы, дзе ацэньваюцца і супастаўляюцца нават самыя значныя творы, напісаныя за некалькі апошніх гадоў...**

— Гэта важная праблема, і ў мяне няма рэцэпта па яе вырашэнні. У пэўнай ступені панарамным аглядам літаратуры 2000-х стала трэцяя кніга чацвёртага тома апошняй акадэмічнай гісторыі беларускай літаратуры. Але такія рэчы трэба рабіць рэгулярна — аглядаць літаратуру, скажам, пяці- альбо нават трохгадовымі цыкламі. Некалі ў Інстытуце літаратуры НАН Беларусі агучвалася ідэя пра стварэнне спецыялізаванага часопіса, які прадстаўляў бы не толькі пярэстую панараму бягучага, аператыўнага жыцця, але і змяшчаў бы аглядавыя, панарамныя артыкулы. Той, хто наважыўся б рабіць такія цыклічныя агляды-панарамы, з кожнага б меў матэрыялу на некалькі дысертацый.

**— Пра сучасных аўтараў нячаста пішуць не толькі дасведчаныя літаратуразнаўцы, але і студэнты-дыпломнікі...**

— Установка на кансерватыўнасць школьнай адукацыі ў параўнанні з ВНУ зразумелая. Там павінны быць прэцэдэнтныя аўтары. А сучаснікі як аб'ект даследавання літаратуразнаўства — гэта самая рызыкоўная, але і самая цікавая тэрыторыя. Вядома, аб'ектам павінен быць не аўтар аднаго твора, а той, хто прынамсі пяць год трымаецца ў полі зроку чытача — як прафесійнага, так і больш шырокага. Такія аўтары — ужо частка літаратурнага ландшафту. І дапытлівага студэнта, магістранта, аспіранта заўсёды можна сарыентаваць, каб паглядзець на гэты ландшафт у адметным ракурсе. Ключавы персанаж у гэтай сітуацыі, на мой погляд, — выкладчык, тут усё ад яго прафесійнай няўрымслівасці залежыць.

**— Пятро Васючэнка нядаўна адзначыў у «Маладосці», што сёння ў беларускай літаратуры дастаткова чытачоў, але мала крытыкаў. Ці пагадзіліся б вы з гэтым меркаваннем?**

— З узростам змяняецца структура прафесійных інтарэсаў. Напрыклад, у студэнцкія гады, падчас навучання ў аспірантуры крытыка бачылася мне шыкоўнай прасторай для эксперыментаў, часам — гульнёй у шкляныя перліны, а літаратуразнаўства — цяжкой манатоннай працай аратая. Зараз ва ўласна крытычных практыкаваннях застаецца ўсё менш нязведанага, несправаванага, затое сучасныя літаратуразнаўчыя доследы адкрываюцца як прастора бязмежных магчымасцей — метадалагічных, праблемных, тэматычных.

> *Вяртанне да рэчаў аналітычна-праблемнага кшталту, на мой погляд, непазбежнае. Бо без панарамнага погляду на літаратурны працэс не можа існаваць не толькі пэўнае выданне, але і сам літпрацэс. Другая па запатрабаванасці постаць пасля чытача — гэта постаць крытыка.*

**— Проста ці складана доўгі час займацца крытыкай?**

— Гэта справа прафесійнага тэмпераменту, магчыма, жыццёвай стратэгіі. Мне сумна рабіць адну і тую ж рэч доўгі час, я нават у адзін момант раблю некалькі рэчаў: прыбіраеш у хаце, чытаеш кнігу, спрабуеш разабрацца з нейкім праектам... Вядома, гэта нудна — пісаць дзве аднолькавыя рэцэнзіі. Калі сядзіш у герметычнай прасторы, дзе адсутнічае новы досвед, праблематычна знаходзіць ідэі для новых эксперыментаў у крытыцы. Я рада, што ў мяне атрымалася мець іншы досвед — не толькі ў справах літаратуразнаўства. Мне давялося быць кіраўніком вельмі розных навуковых тэм: ад распрацоўкі мадэлі рэспубліканскіх інтэрнэт-алімпіяд да спецыфікі галіновай сістэмы аплаты працы педагогаў ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі. І кожны новы вопыт прыносіць новыя ідэі, у тым ліку — для літаратурна-крытычных штудый.

**— Наколькі часта вы сутыкаецеся са школьнай практыкай выкладання літаратуры? Новыя імёны, новыя аспекты літаратуразнаўчых даследаванняў... Ці «пераходзіць» гэта ў школу?**

— Апошнія два-тры гады па запрашэнні Мінскага абласнога інстытута развіцця адукацыі я бяру ўдзел у правядзенні канферэнцый конкурснага кшталту, дзе на адпаведнай секцыі прадстаўляюць даследчыя работы па беларускай мове і літаратуры вучні Мінскай вобласці. З кожным годам становіцца відавочна, як пашыраецца інтарэс вучняў старшых класаў да сучаснай літаратуры. Самыя цікавыя — работы, напісаныя на творчасці новай генерацыі пісьменнікаў, альбо работы, дзе вучніз дапамогай настаўнікаў спрабуюць выкарыстоўваць новыя метадалогіі, у тым ліку міждысцыплінарныя — для аналізу класікі. Напрыклад, у гэтым навучальным годзе адна з работ была прысвечана сімвалічнаму значэнню рэчаў у творах Уладзіміра Караткевіча, дзеля чаго побач з уласна літаратуразнаўчым аналізам выкарыстоўваліся падыходы семіётыкі, герменеўтыкі.

**— Беларускае літаратуразнаўства — гэта тэксты рознай навуковай значнасці і глыбіні. Ці няма тут нейкай глабальнай праблемы? Магчыма, варта было б «узняць планку»?**

— Мне падаецца, што ў параўнанні з крытыкай жыццё беларускага літаратуразнаўства больш упарадкаванае. Магчыма, тут менш «рэвалюцыйнасці напаказ», але ў нас ёсць цікавыя спробы не толькі небанальнага выкарыстання тых ці іншых ідэй (напрыклад, працы Святланы Калядкі па гендарнай праблематыцы), але і генерыравання новых. У свой час мяне ўразіла праца Ліі Кісялёвай, дзе беларуская гумарыстычная проза XIX — пачатку XX стагоддзя разглядалася ў святле сучасных літаратуразнаўчых канцэпцый (дэканструктывізму, рэцэптыўнай эстэтыкі і інш.). Раз-пораз агучвае новыя ідэі прафесар Анатоль Андрэеў, і яны нязменна становяцца нагодай для імпэтных літаратуразнаўчых дыскусій. Апошняя па часе, здаецца, звязана з паняццем «персонацэнтрызму» літаратуры...

**— Якое стаўленне выклікаюць у вас дылетанцкія творы на старонках літаратурна-мастацкіх выданняў?**

— Я не ўчытваюся ў такія творы: слізгаю па паверхні, як жамяра па вадзе, таму яны мяне не чапляюць і не абражаюць. Зразумела, літаратурны працэс — гэта не толькі выбітныя, яркія рэчы, але і адмысловы фон. Магчыма, на гэтым фоне выбітныя рэчы выглядаюць яшчэ ярчэйшымі. Можна разглядаць сітуацыю і ў іншым ракурсе: аўтар згаданых вамі «недасканалых» твораў пакажа выданне сябрам, сваякам — і гэта ёсць адным са шляхоў распаўсюджвання літаратурных твораў, пашырэння кола чытачоў беларускай літаратуры. Не думаю, што сёняшняе літаратурнае жыццё ў гэтым сэнсе экстраардынарнае: заўсёды ў агульнай колькасці твораў адметных і «недасканалых» з вялікім адрывам пераважалі другія.

> *У параўнанні з крытыкай жыццё беларускага літаратуразнаўства больш упарадкаванае. Магчыма, тут менш «рэвалюцыйнасці напаказ», але ў нас ёсць цікавыя спробы не толькі небанальнага выкарыстання тых ці іншых ідэй, але і генерыравання новых.*

**— Чаго вы чакаеце ад беларускай літаратуры? Што было б для вас прыемнай неспадзяванкай?**

— Чакаю раптоўнага буму супольных праектаў: калі не проста ў вуснай ці пісьмовай (віртуальнай найчасцей) камунікацыі, але і ў здзяйсненні рэальных праектаў аб'ядноўваюцца празаікі з паэтамі, крытыкі з літаратуразнаўцамі ці нават усе разам. Згадаю для прыкладу «змову» Раісы Баравіковай, Алеся Бадака, Андрэя Федарэнкі і Алеся Наварыча, у выніку якой з'явілася некалькі цікавых апавесцей для падлеткаў. Выдатна, калі б паспяховых праектаў з рэальнымі літаратурнымі вынікамі было б, скажам, два на год! Моладзевыя ініцыятывы плюс здольнасць старэйшых давесці справу да канца магла б даць добры плён. У гэтых чаканнях аптыміст ува мне амаль перамагае прагматыка...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Прафесіяналізм, праўдзівасць, адказнасць



Фота БелТА

Расійскі журналіст, міжнародны аглядальнік Леанід Млечын праводзіць майстар-клас у межах Летняй школы журналістыкі.

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Геаграфія форуму журналістаў увесь час пашыраецца. Сёлета яго ўдзельнікамі сталі прафесіяналы ў галіне СМІ з Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Балгарыі, Венгрыі, Венесуэлы, В'етнама, Германіі, Ізраіля, Індыі, Казахстана, Кітая, Кубы, Кыргызстана, Латвіі, Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Сербіі, Таджыкістана, Туркменістана, Узбекістана, Украіны, Францыі, Эстоніі. У медыяфоруме ўзялі ўдзел прадстаўнікі Еўразійскай эканамічнай камісіі, Савета Еўропы, ААН.

## РАШЭННІ — КАНСТРУКТЫЎНЫЯ

Падчас адкрыцця медыяфоруму міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч у сваім выступленні падкрэсліла:

— Спадзяюся, медыяфорум стане значным крокам у развіцці міжнароднай інфармацыйнай прасторы, унясе важкі ўклад ва ўмацаванне міру і ўзаемаразумення паміж народамі. Форум стаў міжнароднай пляцоўкай, дзе абмяркоўваюцца актуальныя пытанні сусветнай павесткі дня, ролі і значэння СМІ ў сённяшнім свеце. Сучасныя канфлікты пераконваюць: спакуса выкарыстоўваць масмедыя як прапагандысцкі рэсурс у інфармацыйным супрацьстаянні не засталася ў мінулым. На жаль, інфармацыйныя правакацыі сталі штодзённай руцінай, што фарміруе ў людзей няправільную карціну свету. Рашэнне любых канфліктаў можа быць знойдзенае ў канструктыўным ключы. Наша інфармацыйная прастора дэманструе імкненне да ўзважанага, канструктыўнага асвятлення самых складаных праблем сучаснасці.

Адметна, што да ўдзельнікаў медыяфоруму з прывітаннем звярнуўся Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка: «Сёлетні форум праводзіцца ў год 70-годдзя Вялікай Перамогі. У той страшнай вайне мы змаглі выстаяць, бо былі разам, і сёння таксама павінны быць адзінымі ў шчырым імкненні да міру і ўзаемаразумення. Сродкам масавай інфармацыі, усведамляючы сваю гістарычную адказнасць перад грамадствам, неабходна заняць у гэтых працэсах канструктыўную пазіцыю. Гэта наша агульная гісторыя, якую мы абавязаны ахоўваць і абараняць ад спроб перагляду і фальсіфікацыі».

Прывітанне Прэзідэнта зачытаў падчас пленарнага пасяджэння намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі. Звярнуўся Ігар Іванавіч да прысутных і са сваёй прамовай:

— Хочацца пажадаць, каб форум і далей пашыраў свае далягляды, прываблівваў на арбіту прадстаўнікоў знакавых медыя і экспертных супольнасцей з розных краін свету. Гэта надзвычай важна, бо сёння ў галіне журналістыкі, СМІ назіраюцца тэндэнцыі, якія прымушаюць задумацца. Так, структура інфармацыйнага поля цягам апошніх дзесяцігоддзяў істотна змянілася. Радыё, друкаваныя СМІ, тэлебачанне ў многіх адносінах саступілі месца сеціўным рэсурсам. Гэтая тэндэнцыя адлюстроўваецца ў даследаваннях, што праводзяцца на тэрыторыі Беларусі, а таксама краін-удзельніц форуму. Лічбы вельмі ўражваюць, абуджаюць роздумы пра падыходы па арганізацыі працы не толькі са СМІ, але і дзейнасці ў розных сферах.

Ігар Бузоўскі распавёў, што па выніках даследаванняў каля 90 працэнтаў інфармацыі моладзь сёння атрымлівае з інтэрнэт-прасторы. Змяніўся і спосаб атрымання інфармацыі ў цэлым. Калі ў 2005 годзе толькі 2,7 працэнта насельнікаў краіны даведваліся пра палітыку і эканоміку з інтэрнэту, то ў 2015 годзе лічба павялічылася да 45 працэнтаў. Аднак, па меркаванні Ігара Іванавіча, гэта не значыць, што традыцыйныя СМІ маральна састарэлі. Ім варта праяўляць больш творчай ініцыятывы, ствараць арыгінальныя праекты, звярнуць увагу на аналітычнасць інфармацыі, глыбіню падыходаў, што выступае як альтэрнатыўнае рашэнне ў параўнанні з досыць павярхоўнымі, хоць і мабільнымі інтэрнэт-рэсурсамі. Гэта вельмі складаная, але, тым не менш, адказная задача.

Шмат увагі падчас пленарнага пасяджэння выступоўцы звярнулі на прафесіяналізм журналістаў, выкананне этычных нормаў, узважаны і асэнсаваны падыход да асвятлення падзей рознага кшталту. Неаднаразова падкрэслівалася, што ў аснове працы журналіста павінна ляжаць ісціна, праўдзівасць.

## ФОРУМ НА СЛУЖБЕ ПЕРАМОГІ

Закранулі ўвагай выступоўцы і тэму Вялікай Айчыннай вайны, 70-годдзе Перамогі ў якой мы адзначаем сёлета. Адметна, што тэма Вялікай Перамогі як магістраль праходзіла праз усе аспекты працы медыяфоруму. У першы дзень яго ўдзельнікі наведалі Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, гісторыка-культурны комплекс «Лінія Сталіна», а таксама ўсклалі кветкі да манумента на Плошчы Перамогі. Тэма Перамогі стала адной з галоўных і падчас пленарнага пасяджэння.

Цягам 2015 года ўжо рэалізавана мноства цікавых і значных праектаў, скіраваных на захаванне памяці пра Вялікую Айчынную і вывучэнне яшчэ не вядомых старонак вайны. Так, Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота распавёў, што летась у Светлагорскім раёне адкрыты мемарыял пачатку аперацыі «Баграціён». Сёлета рэалізаваны праект «Бессмяротны полк», актыўна працуе рух пошукавікаў, Фонд памяці палкаводцаў Перамогі. Разам з тым арганізатарам праектаў і імпрэз варта шукаць новыя падыходы да асвятлення падзей Вялікай Айчыннай, прыцягваць да ўдзелу школьнікаў і моладзь.

Некалькі гадоў доўжылася падрыхтоўка да святкавання 70-годдзя Вялікай Перамогі на ўзроўні СНД. Сумесная праграма ўсёй Садружнасці ўключала больш як 100 розных мерапрыемстваў. Гэта падкрэсліў першы намеснік Старшыні Выканаўчага камітэта — Выканаўчага сакратара СНД Уладзімір Гаркун. Імпрэзы ў межах святкавання сёлета мелі асаблівую знач-насць: унукам трэба абараняць праўду пра вайну, аддаючы даніну памяці сваім дзядам і прадзедам, выказваць пашану яшчэ жывым сведкам страшных падзей. Таму 2015 год быў аб'яўлены Годам ветэранаў у СНД. Кіраўніцтва Садружнасці працуе ў кірунку павышэння якасці медыцынскага абслугоўвання ветэранаў, іх матэрыяльнага дабрабыту і сацыяльнага становішча.

— Вялікая Айчынная вайна — моцны гістарычны падмурак агульнай мінуўшчыны СНД. Таму роля масмедыя ў асвятленні падзей святкавання 70-годдзя Вялікай Перамогі і памяці пра вайну надзвычай важная. Думаецца, вынікі форуму будуць садзейнічаць развіццю інтэграцыі ў СНД, — падкрэсліў Уладзімір Гіляравіч.

Важнае значэнне для людзей рознага ўзросту, канфесій, інтарэсаў не толькі ў Расіі, але і за мяжой мелі тэматычныя праекты, рэалізаваныя ТАСС да гэтай знакавай даты. Усе праекты былі заснаваныя на дакументальных сведчаннях: ваенных архівах, фотаздымках, артыкулах, успамінах ветэранаў. Пра іх распавёў Генеральны дырэктар ТАСС Сяргей Міхайлаў:

— Гэта прамая трансляцыя парада Перамогі, сустрэча франтавікоў, конкурс патрыятычнага плаката, больш як 50 фотавыставак. Сумесна з газетай «Комсомольская правда» ТАСС арганізавала праект «ТАСС і Комсомольская правда» ўпаўнаважаныя паказаць». У яго межах цягам двух месяцаў штотыдзень друкаваліся падборкі малавядомых ваенных фотаздымкаў ТАСС, якія распавядаюць пра розныя бакі жыцця на фронце і ў тыле. Другі праект быў прысвечаны калегам-журналістам, што прайшлі гады вайны з фотаапаратам і блакнотам. ТАСС упершыню адшукаў і запрасіў на сустрэчу сваякоў і сяброў сваіх франтавых карэспандэнтаў, мастакоў плакатаў. Сёлета пабачыла свет і вялікая кніга, якую ветэраны ТАСС Віктар Дзюнін і Людміла Максімава напісалі да 70-годдзя Перамогі. Гэта выданне «ТАСС: франтавое пакаленне», прысвечанае ўкладу карэспандэнтаў у справу Перамогі.

Выдатна папрацавалі ў гэтым кірунку і ў Беларусі — краіне-гаспадыні медыяфоруму. Адмыслова да міжнароднай сустрэчы ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, дзе прайшлі асноўныя пасяджэнні, былі арганізаваныя экспазіцыі, прысвечаныя 70-годдзю Вялікай Перамогі. Гэта фотавыстаўка інфармацыйнага агенцтва БелТА «Этапы Вялікай Перамогі», тэматычная экспазіцыя Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі «Слова клікала да Перамогі. Падпольныя і партызанскія газеты часоў Вялікай Айчыннай вайны», прадстаўленне самых лепшых работ міжнароднага конкурсу патрыятычнага плаката моладзі краін СНД «Нам дарагі мір».




Фота Кастуся Дробава

Першы намеснік генеральнага дырэктара ТАСС Міхаіл Гусман, генеральны дырэктар ТАСС Сяргей Міхайлаў і Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота падчас медыяфоруму.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Аб’яднанне дзеля эфектыўнасці

**Падчас медыяфоруму актыўна абмяркоўваліся пытанні сумеснай працы СМІ розных дзяржаў, новыя праекты на ўзроўні СНД.
І хоць не было той вастрыні, якой чакалі мадэратары панэльнай дыскусіі «Сучасны свет у эпоху новых геапалітычных рэалій», часам узнікалі гарачыя спрэчкі, а меркаванні выступоўцаў былі дыяметральна супрацьлеглымі.**

— Новыя медыя, інтэрнэт, сацыяльныя сеткі даюць магчымасць хутка распаўсюджваць вялікую колькасць інфармацыі, атрымліваць актуальныя і своечасовыя каментары. Важна развіваць экспертныя, медыйныя пляцоўкі, інфармацыйныя праекты, што працуюць на стваранне, генерыруюць інфармацыйныя патокі канструктыўнага характару, — заўважыла ў сваім выступленні міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч. — Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што медыяфорум выконвае задачу аб’яднання, працягвае эфектыўна развівацца. Шчырая і адказная журналістыка, выкананне норм прафесійнай этыкі, карпаратыўная салідарнасць стануць добрым адказам палітычнай кан’юнктуры і ідэалогіі разбурэння. Сённяшні свет вельмі цесна інтэграваны. Таму нельга рашаць сумесныя праблемы без уліку сумесных інтарэсаў, цеснага ўзаемадзеяння. Толькі кансалідаваўшы сілы, мы зможам супрацьстаяць сучасным выклікам і пагрозам.

Ужо зробленыя першыя крокі ў кірунку збліжэння СМІ, літаратур і культур краін СНД. Так, Выдавецкім домам «Звязда» створаны праект «Сугучча», у межах якога публікуюцца лепшыя творы публіцыстаў і літаратараў краін СНД. Водгукам на паглыбленне Еўразійскай інтэграцыі стала нараджэнне новай газеты «Союз Евразия», якая выходзіць у выглядзе дадатку да газеты «Звязда». У маі пачаў працу новы партал СМІ Беларусі, які аб’ядноўвае ўсе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Дзякуючы гэтаму парталу раённыя газеты атрымалі дадатковую магчымасць для прасоўвання сваёй інфармацыі ў сеціве, сталі больш даступнымі ў любым кутку свету. Гэты праект вядзе грамадска-палітычны холдынг «Советская Белоруссия».

Галоўны рэдактар установы Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Рэдакцыя газеты «Советская Белоруссия» Павел Якубовіч зазначыў:

— У сучасным свеце новыя «прывіды» хочуць наладзіць кіраўніцтва светам. З’яўляюцца новыя цэнтры прыцягнення — Індыя, Кітай, Пакістан. Аднак гэтая шматпалярнасць не заўсёды працуе на карысць сусветнай палітыкі. Яна можа прывесці да з’яўлення памылковых меркаванняў пра лідарства. Новыя выклікі часу з’яўляюцца нечакана. Роля СМІ надзвычай павышаецца, бо менавіта са СМІ людзі атрымліваюць звесткі пра свет. Нявартa надаваць шмат увагі спусташальнай вайне за рэсурсы, уладу — варта клапаціцца пра глыбіню падачы фактаў і несці адказнасць перад чытачамі.

На пагрозы, што з’яўляюцца ў сучасным свеце, звярнуў увагу ў сваім выступленні старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, у якога, дарэчы, 45-гадовы вопыт працы ў галіне журналістыкі. Мікалай Іванавіч зазначыў, што існуюць надзвычай важныя сусветныя праблемы, напрыклад, недахоп пітной вады, ісламская агрэсія, на якія варта скіроўваць увагу сусветнай супольнасці для іх сумеснага вырашэння. Не трэба выносіць патрабаванні адно аднаму, імкнуцца раз’яднаць саюзы і пасварыць сяброў. Варта часцей згадваць пра ўрокі Другой сусветнай вайны, калі многія пакутавалі ад голаду і страху, страцілі блізкіх. Мікалай Чаргінец прапанаваў задумацца: ці не час патрабаваць ад швейцарскіх банкаў рассакрэціць рахункі фашыстаў за гады Другой сусветнай вайны? Магчыма, з гэтымі звесткамі мы зможам глыбей вывучыць падзеі тых страшных гадоў.

Пра няведанне школьнікамі гісторыі Вялікай Айчыннай, магчымасць адраджэння фашызму ў Расіі разважаў галоўны рэдактар газеты «Вечерняя Москва» Аляксандр Купрыянаў:

— Ніколі не думалася, што фашызм вернецца ў нашу краіну ў форме неафашызму і неанацызму. Але ён існуе. І знакі свастыкі часта можна пабачыць на сценах нашага горада. Як гэта магчыма ў краіне, якая перамагла Германію ў 1945-м?



Фота Кастуся Дробава

*Знаёмства з фотавыстаўкай інфармацыйнага агенцтва БелТА «Этапы Вялікай Перамогі».*

Звярнуць увагу на пэўныя праблемы, завастрыць пытанні, прапанаваць шляхі вырашэння канфліктаў — менавіта на гэтыя аспекты працы варта звяртаць увагу як кіраўнікам СМІ, так і журналістам. Гэта асабліва актуальна ў гарачых кропках, а таксама там, дзе ідзе вайна.

— СМІ могуць прыбраць «парахавую бочку» ў Балканскім рэгіёне, — падкрэсліла Тасіч Ядранка, рэдактар сербскага партала BKTVnews. — Мы хочам, каб жыццё тут паспакайнела, захаваўся мір і было забаронена ўжыванне ядзернай зброі. Нам важна таксама бараніць сваю нацыянальную ідэнтычнасць. Аднак носьбітам глабалізму не цікавыя дзеці, якія галадаюць, ім патрэбна знайсці новыя рынкі збыту.

Старшыня Савета рэдактараў СМІ Кіеўскай вобласці, рэдактар газеты «Трибуна праці» Павел Смоўж звярнуўся да прысутных з наступнымі словамі:

— Варта знайсці адказы на пытанні: як умацоўваць мір, забяспечваць мірнае існаванне народа? Войны вядуцца не толькі са зброяй у руках. Гэта эканамічныя, інфармацыйныя, ідэйныя супрацьстаянні. Журналісту ў вайне таксама адводзіцца важнае месца. Яму трэба прыняць рашэнне: падтрымліваць узброены канфлікт, апраўдваць ці асуджаць. Мы чакаем не толькі размовы аб прафесіяналізме, але і прызнання адказнасці за свае словы, публікацыю не толькі палітычна ангажаваных каментарыяў, але і праўдзівых фактаў. Ці заўсёды СМІ адпавядаюць гэтым крытэрыям? Варта памятаць пра вынікі папярэдняй вайны, але думаць і пра наступствы кожнага новага ўзброенага канфлікту.

**Чэслава ПАЛУЯН**

# Не прадавайце душу!

У часы, калі важную ролю мае рэзананс ад інфармацыі, калі на першы план выходзяць грашовы прыбытак і ўлада, а не сціпласць і ўзаемапавага, журналісту варта прытрымлівацца прафесійнага маральнага кодэкса. Быць праўдзівым, шчырым, не паддавацца спакусам лёгкасці і павярхоўнасці паказу складаных пытанняў.

Так, расійскі міжнародны аглядальнік Леанід Млечын падчас медыяфоруму параіў калегам:

— Журналіст не проста абслугоўвае ўладу, народ, перадае інфармацыю. Ён нясе адказнасць за сваю справу. Мы можам пісаць і казаць толькі тое, што ведаем. Трэба мець «халодную галаву» і разважаць лагічна. Важна не прадаваць душу дзеля лёгкай здабычы, але выхоўваць у сабе даследчыка, які ставіць аб’ектыўныя факты вышэй за ўсё.

Пра ролю журналіста ў камунікацыі сацыяльных эліт разважаў Кірыл Коктыш, дацэнт Маскоўскага дзяржаўнага інстытута міжнародных адносін. Па меркаванні даследчыка, менавіта СМІ іграюць важную ролю ў фарміраванні карціны свету, ствараюць ці разбураюць сацыякультурныя коды. Гэта можа прывесці да таго, што камунікацыя паміж сацыяльнымі элітамі стане проста немагчымая. Вайна разбурае краіны, эканомікі, таму важна скіроўвацца на стваральны эфект.

Аб’ектыўным быць немагчыма. Так лічыць генеральны дырэктар «Российской газеты» Павел Нягоіца. На думку Паўла Афанасьевіча, мы ўсе суб’ектыўныя ў сваіх меркаваннях. І вельмі шкада, што журналісты часта «слізгаюць па паверхні» тэмы, не вывучаюць пытанне з неабходнай глыбінёй. Таму рэдакцыям газет і часопісаў варта станавіцца цэнтрамі экспертных супольнасцей, гуртаваць вакол сябе экспертаў у розных сферах — гісторыкаў, медыкаў, дыпламатаў, каб меркаванні журналістаў падмацоўваліся думкамі і высновамі прафесіяналаў.

Ужо добрай традыцыяй падчас медыяфорумаў стала прыняцце рэзалюцый удзельнікамі гэтых прадстаўнічых сустрэч. Не стала выключэннем і сёлетняя «сустрэча ў мінскім стылі», як ужо паспелі назваць журналісты спатканні ў беларускай сталіцы. Рэзалюцыя медыяфоруму падкрэсліла некаторыя важныя пытанні, што абмяркоўваліся падчас пасяджэнняў, а таксама закранула аспекты прафесійнай працы, у кірунку ўдасканалення якіх варта працаваць у будучыні.

Важнае месца ў гэтым дакуменце займае праца па захаванні памяці пра Вялікую Айчынную вайну. «Гэта свяшчэнны доўг цяперашняга і будучага пакаленняў», — гаворыцца ў дакуменце.

Звярнулі ўвагу ўдзельнікі форуму і на тое, што журналістам варта прытрымлівацца маральных прынцыпаў, не дазволіць сабе скаціцца ў бездань інфармацыйных войнаў «усіх супраць усіх», а таксама з карысцю выкарыстоўваць новыя тэхналогіі для распаўсюджання інфармацыі. Рэзалюцыя сцвярджае: «Дасягнуць праўдзівасці і сумленнасці ў працы можна шляхам выканання нормаў журналісцкай этыкі, выпрацаваных на аснове шматвекавога вопыту, карпаратыўнай салідарнасці. Найважнейшае значэнне ў сучасных варунках набывае такая катэгорыя, як маральная і сацыяльная адказнасць журналіста».

Удзельнікі медыяфоруму таксама выказалі падзяку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Пастаяннаму камітэту Саюзнай дзяржавы, Выканаўчаму камітэту СНД, Міждзяржаўнаму фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД за магчымасць абмеркавання актуальных пытанняў сусветнай палітыкі ў Мінску.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Навінкі кнігавыдання

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Сборник произведений устного народного творчества**: [для младшего школьного возраста / составители: Е. Р. Абражей, Ф. В. Сушко]. — Минск: Беларусь, 2014. — 222 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-01-1106-7 (в пер.).

**Спи-засыпай**: [русские народные колыбельные: для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина / художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2014. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0848-8.

**Теремок**: [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 10 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-18-2701-1.

**Терешечка**: [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 10 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-18-2802-5.

**Три поросенка**: [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 10 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-18-2695-3.

**Успенский, Э. Н.** Стихи и сказки: [для детей до 3 лет: для чтения взрослыми детям] / Э. Успенский. — Москва: АСТ, 2014. — 124 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-057695-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3482-8 (Харвест) (в пер.).

**Фраерман, Р. И.** Дикая собака динго, или Повесть о первой любви: [для среднего школьного возраста] / Рувим Фраерман. — Москва: АСТ, 2014. — 190 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-071405-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3438-5 (Харвест) (в пер.).

**Фраерман, Р. И.** Дикая собака динго, или Повесть о первой любви: [для среднего школьного возраста] / Рувим Фраерман. — Москва: АСТ, 2014. — 190 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-17-056021-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3439-2 (Харвест) (в пер.).

**Чудной домишко**: [русские народные загадки: для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2014. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0834-1.



***Аўласенка, Г. П. Дашачка і чароўныя акуляры: казачная аповесць: [для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту] / Генадзь Аўласенка; [мастак А. Балыш]. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 101 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-11-0804-2.***

*Самыя цікавыя і захапляльныя прыгоды адбываюцца з дзецьмі ўлетку. У школу хадзіць не трэба, і можна на ўсё лета паехаць у вёску да бабулі. Так і робіць Дашачка, галоўная гераіня новай казачнай аповесці Генадзя Аўласенкі. Натуральна, з дзяўчынкай часта здараюцца цікавыя гісторыі. Аднойчы яна сустрэла вожыка… у чорных акулярах. Але на гэтым прыгоды толькі пачаліся! Адметна, што гэтая кніга чытаецца надзвычай лёгка, сюжэт казкі цікавы і захапляльны. Таму, калі пачнецца дождж, можна з радасцю і прыемнасцю прабавіць час разам з ёй.*

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Дудюк, З. И.** В школе: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Дудюк Зинаида Иосифовна. — Минск: Харвест, 2014. — 17 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-18-3478-1.

**Мельничук, И. М.** Чудеса в решете: веселые детские стихи и сказки / Иван Мельничук. — Брест: Брестская типография, 2014. — 115 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-524-180-6.

**Рогаль, И. М.** Добрососедство и зазнайство: стихи для семейного чтения / Иосиф Рогаль. — Брест: Брестская типография, 2009. — 7 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-524-012-0.

**Сенкевич, В. А.** Любопытная устрица: сказки: [для младшего и среднего школьного возраста] / Виктория Сенкевич; [художник Валерия Цыганкова]. — Минск: Звязда, 2014. — 28 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-7083-63-3.

### Беларуская літаратура

**Агнявыя дарогі да Перамогі:** [творы ветэранаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны: для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту / складальнік С. У. Пешын]. — Мінск: Беларусь, 2014. — 510 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 1500 экз. — ISBN 978-985-01-1105-0 (у пер.).

**Марчук, Г. В.** Настенька и лиходеи: сказки: [для младшего школьного возраста] / Георгий Марчук; [художник Мария Мицкевич; перевод с белорусского И. Л. Кочетковой]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 22 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0802-8.

**Марчук, Г. В.** Смелый Дятлик: сказки: [для младшего школьного возраста] / Георгий Марчук; [перевод с белорусского И. Л. Кочетковой; художник Мария Мицкевич]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 22 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0809-7.

**Мозго, В. М.** Слоны с луны: стихи, сказки, скороговорки, каламбуры: [для младшего школьного возраста: для чтения взрослыми детям] / Владимир Мозго; [перевод с белорусского языка Геннадия Авласенко; художник Рита Тимохова]. — Минск: Звязда, 2014. — 78 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-7083-64-0 (в пер.).

**Скаржынская-Савіцкая, Г. І.** Надзейка-чарадзейка: казкі: [для малодшага школьнага ўзросту] / Ганна Скаржынская-Савіцкая; [мастак Ганна Скаржынская-Савіцкая]. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2014. — 46 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0800-4.

**Скарынкін, У. М.** Дзе і як жыве Нептун?: вершы: са слоўнічкам / Уладзімір Скарынкін. — Мінск: Пачатковая школа, 2014. — 93 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-565-105-6.

### Тэорыя літаратуры. Вывучэнне літаратуры

**Россия и Беларусь: историческая и духовная общность**: сборник материалов олимпиады школьников Союзного государства (Полоцк, 27 октября – 2 ноября 2013 г.) / редакционный совет: В. Ф. Русецкий [и др.]. — Полоцк: Полоцкое книжное издательство, 2013. — 574 с. — 550 экз. — ISBN 978-985-6936-62-6 (в пер.).

**Федоров, А. В.** ГИА-2015. Литература: тренировочные варианты экзаменационных работ для подготовки к основному государственному экзамену в 9-м классе / А. В. Федоров, Е. А. Зинина. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 124 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-086124-8 (АСТ). — ISBN 978-5-271-46994-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-3414-9 (Харвест).

### Беларуская літаратура

**Аляшкевіч, Т. А.** Фонасемантыка паэтычнага твора Алеся Разанава / Т. А. Аляшкевіч; [навуковы рэдактар М. А. Тычына]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, Філіял «Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы». — Мінск: Беларуская навука, 2014. — 159 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-08-1731-0.

**Варапаева, В. С.** Сшытак па літаратурным чытанні: 3-ці клас: дадатак да вучэбнага дапаможніка «Літаратурнае чытанне» для 3-га класа (аўтары: В. С. Варапаева, Т. С. Куцанава) / В. С. Варапаева, Т. С. Куцанава. — 5-е выд., перапрацаванае. — Мінск: Аверсэв, 2014. — 80 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-19-1337-0.

**Марціновіч, Д. А.** Жанчыны ў жыцці Уладзіміра Караткевіча / Дзяніс Марціновіч. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2014. — 176 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7058-53-2.

**Мельнікава, З. П.** Беларуская літаратура і нацыякультурная прастора: манаграфія / З. П. Мельнікава; Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт ім. А. С. Пушкіна. — Брэст: БрДУ, 2014. — 233 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-555-239-1.

**Несцяровіч, С. У.** Кантроль ведаў па беларускай літаратуры (літаратурныя дыктанты): 10-ты клас: (2-е паўгоддзе): практыкум для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі / С. У. Несцяровіч. — 2-е выд. — Мазыр: Белы Вецер, 2014. — 67 с. — 513 экз. — ISBN 978-985-542-968-6.

## ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ

### Археалогія. Перадгісторыя

**Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых і міждысцыплінарных даследаванняў**: зборнік навуковых артыкулаў II Міжнароднай навуковай канферэнцыі (да 20-годдзя археалагічных і этнаграфічных экспедыцый ПДУ) (Полацк, 17–18 красавіка 2014 г.): у 2 ч. / пад агульнай рэдакцыяй: Д. У. Дука, У. А. Лобача, С. А. Шыдлоўскага. — Наваполацк: ПДУ, 2014. — 99 экз. — ISBN 978-985-531-461-6.

Ч. 1. — 275 с. — Частка тэксту на рускай і ўкраінскай мовах. — ISBN 978-985-531-462-3.

Ч. 2. — 221 с. — Частка тэксту на рускай мове. — ISBN 978-985-531-463-0.

### Краязнаўства

**Тейкин, В. В.** Земля Радуги: книга о родной деревне / Владимир Тейкин. — Минск: Виктор Хурсик, 2014. — 200 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-7025-34-3 (в пер.).

**Хвагіна, Т. А.** Пінск – сэрца Палескага краю = Пинск – сердце Полесского края = Pinsk – the heart of Polessye / Т. А. Хвагіна; [мастак У. П. Свентахоўскі; фотаздымка Я. У. Таламая]. — Мінск: Вышэйшая школа, 2014. — 175 с. — Тэкст паралельна на беларускай, рускай і англійскай мовах. — 1200 экз. — ISBN 978-985-06-2474-1 (у пер.).

### Геаграфія. Падарожжы

**Барабанов, В. В.** ЕГЭ-2015. География: 30 типовых вариантов экзаменационных работ для подготовки к ЕГЭ: 11-й класс / В. В. Барабанов, Ю. А. Соловьева. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 429 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-086046-3 (АСТ). — ISBN 978-5-271-46983-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-3408-8 (Харвест).

**Гаврильчик, З. С.** Основы общего землеведения: методические рекомендации к лабораторным работам / З. С. Гаврильчик; Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова, Кафедра географии. — Витебск: ВГУ, 2014. — 37 с. — 65 экз.

**Марцинкевич, Г. И.** Ландшафтоведение: учебное пособие для студентов учреждений высшего образования по специальностям «География», «Геоэкология» / Г. И. Марцинкевич, И. И. Счастная. — Минск: ИВЦ Минфина, 2014. — 286 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7060-75-7.

**Мешечко, Е. Н.** Физическая география Беларуси: пособие для студентов географического факультета / Е. Н. Мешечко; Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина. — Брест: БрГУ, 2014. — 232 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-555-158-5.

### Біяграфічныя і падобныя даследаванні

**Адамушко, В. И.** Современная геральдика Беларуси / В. И. Адамушко, М. М. Елинская; [редколлегия: Ю. В. Александров (главный редактор) и др.]; Департамент по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь. — 2-е изд. — Минск: Беларуская энцыклапедыя, 2014. — 533 с. — 1800 экз. — ISBN 978-985-11-0786-1 (в пер.).

**Гербоўнік беларускай шляхты** / Дэпартамент па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі; [навуковы рэдактар: А. Рахуба]. — Мінск, 2002—

Т. 3: В / [Дз. Ч. Матвейчык (кіраўнік) і інш.]. — Беларусь, 2014. — 646 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-01-1095-4 (у пер.).

**Татур, Г. И.** Корни и ветви: Родословная. Странички жизни / Г. И. Татур. — Минск: Ковчег, 2014. — 138 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7086-61-0.

**Unus pro omnibus**: Валовічы ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага XV–XVIII стст. / Цэнтр генеалагічных даследаванняў, Музей «Замкавы комплекс «Мір»; [складальнік А. М. Янушкевіч; навуковы рэдактар: А. І. Шаланда]. — Мінск: Медысонт, 2014. — 506 с. — Частка тэксту на польскай мове. — 500 экз. — ISBN 978-985-7085-36-1 (у пер.).

### Гісторыя

**Гісторыя Старажытнага свету**: вучэбны дапаможнік для 5-га класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання: у 2 ч. / пад рэдакцыяй У. С. Кошалева; [пераклад з рускай мовы В. К. Раманцэвіч]. — 2-е выд., перапрацаванае. — Мінск: Народная асвета, 2014. — ISBN 978-985-03-2212-8 (у пер.).

Ч. 2 / [У. С. Кошалеў і інш.]. — 2014. — 127 с. — 19000 экз. — ISBN 978-985-03-2214-2.

**История**: 10-й класс: рабочая тетрадь: приложение к учебным пособиям для 10-го класса: «Всемирная история Новейшего времени: 1918–1945 гг.» (под редакцией Г. А. Космача), «История Беларуси: 1917–1945 гг.» (авторы: Е. К. Новик, В. В. Гинчук): пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / М. А. Краснова [и др.]. — 3-е изд. — Минск: Аверсэв, 2014. — 157 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-1261-8.

**История Древнего мира**: учебное пособие для 5-го класса учреждений общего среднего образования с русским языком обучения: в 2 ч. / под редакцией В. С. Кошелева. — 2-е изд., переработанное. — Минск: Народная асвета, 2014. — ISBN 978-985-03-2209-8 (в пер.).

Ч. 2 / [В. С. Кошелев и др.]. — 2014. — 127 с. — 112000 экз. — ISBN 978-985-03-2211-1.

**Соловьянчик, А. И.** История древнего мира: 5-й класс: о чем в учебнике не прочитаешь / А. И. Соловьянчик. — Минск: Аверсэв, 2014. — 122 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-1162-8.

**Секацкая, К. И.** История Средних веков: [V–XIII вв.]: 6-й класс: опорные конспекты / К. И. Секацкая. — Минск: Аверсэв, 2014. — 92 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-1180-2.

**Секацкая, К. И.** История Средних веков: [XIV–XV вв.]: 7-й класс: опорные конспекты / К. И. Секацкая. — Минск: Аверсэв, 2014. — 64 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-1181-9.

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Артасов, И. А.** ЕГЭ-2015. История: 30 типовых вариантов экзаменационных работ для подготовки к ЕГЭ: 11-й класс / И. А. Артасов, О. Н. Мельникова. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 364 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-084354-1 (АСТ). — ISBN 978-5-271-46885-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-3460-6 (Харвест).

**Артасов, И. А.** ЕГЭ-2015. История: самое полное издание типовых вариантов заданий для подготовки к ЕГЭ / И. А. Артасов, О. Н. Мельникова. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 158 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-085944-3 (АСТ). — ISBN 978-5-271-46959-6 (Астрель). — ISBN 978-985-18-3442-2 (Харвест).

**Моторова, Н. С.** История восточных славян (Россия и Украина): XIX – начало XXI века: методические рекомендации: [для студентов отделения заочного обучения]: в 2 ч. / Н. С. Моторова, Л. А Моторова; Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова, Кафедра всеобщей истории и мировой культуры. — Витебск: ВГУ, 2014. — 130 экз.

Ч. 1: XIX – начало XX века. — 47 с.

Ч. 2: XX – начало XXI века. — 50 с.

**Нацистская политика геноцида на оккупированных территориях СССР**: сборник материалов международной научно-практической конференции, Брест, 7–8 декабря 2012 г. / [редколлегия: Е. С. Розенблат (гл. ред.)]. — Брест: БрГТУ, 2014. — 224 с. — Часть текста на белорусском языке. — 30 экз. — ISBN 978-985-555-186-8.

### Гісторыя Беларусі

**Багалейша, С. В.** Беларуска-літоўскія ўзаемаадносіны ў 1915–1924 гг. / Багалейша С. В. — Мінск: БДАТУ, 2014. — 231 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-519-666-3.

**Белоусов, В. П.** Живи и помни: письма и воспоминания / Белоусов В. П. — Минск: Ковчег, 2014. — 179 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-7086-78-8 (в пер.).

**Воссоединение**: к 75-летию воссоединения Западной Беларуси с БССР: сборник документов / Гродненский областной исполнительный комитет, Государственный архив общественных объединений Гродненской области; [составители: Ю. Ф. Анисенко и др.]. — Гродно: Гродненская типография, 2014. — 192 с. — 64 экз. — ISBN 978-985-7037-52-0.

**Грыцкевіч, А. П.** Сцягі Оршы: [гістарычны нарыс аб Аршанскай бітве 8 верасня 1514 г.] / Анатоль Грыцкевіч. — Мінск: А. М. Вараксін, 2014. — 63 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7092-49-9.

**Дмитрачков, П. Ф.** История Беларуси. С древнейших времен до конца XVIII в.: учебно-методические материалы: для студентов 1-го курса исторического факультета / П. Ф. Дмитрачков; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — Могилев: МгГУ, 2014. — 87 с. — 140 экз. — ISBN 978-985-480-982-3.

**Друждж, П.** Бітва пад Оршай 1514 года / Петр Друждж; пераклад з польскай [Андрэя Янушкевіча]. — Мінск: А. М. Янушкевіч, 2014. — 211 с. — 600 экз. — ISBN 978-985-99340-1-8.

**Заливако, А. С.** Терминологический словарь Великого княжества Литовского / Александр Заливако. — Изд. 2-е, дополненное. — Минск: Энциклопедикс, 2014. — 55 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7090-23-5.

**Знакамітыя мінчане XIX–XX стст.:** постаці і роля жанчын у грамадскім і культурным жыцці Мінска і Міншчыны ў XIX – пачатку XX ст.: матэрыялы [VII] Беларуска-польскай навукова-тэарэтычнай канферэнцыі, Мінск, 26 красавіка 2012 г. / [рэдкалегія: Здзіслаў Вінніцкі і інш.]. — Мінск: В. Хурсік, 2013. — 233 с. — Частка тэксту на польскай і рускай мовах. — 300 экз. — ISBN 978-985-7025-29-9.

**Каранюк, А. А.** Сэнс жыцця: [успаміны] / Аляксандр Каранюк; [рэдкалегія: А. Л. Крупа, А. А. Багдановіч]. — Ліда: Лідская друкарня, 2014. — 531 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-6437-33-8 (у пер.).

**Краснова, М. А.** Гісторыя Беларусі: другая палова XIII – першая палова XVI ст.: 7-мы клас: рабочы сшытак: дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання: [дадатак да вучэбнага дапаможніка «Гісторыя Беларусі: другая палова XII – першая палова XVI ст.» для 7-га класа (пад рэдакцыяй Ю. М. Бохана)] / М. А. Краснова; пад рэдакцыяй Ю. М. Бохана. — 3-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2014. — 79 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-1227-4.

**Краснова, М. А. История Беларуси: вторая половина XIII – п**ервая половина XVI в.: 7-й класс: рабочая тетрадь: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения: [приложение к учебному пособию «История Беларуси: вторая половина XIII – первая половина XVI в.» для 7-го класса (под редакцией Ю. Н. Бохана)] / М. А. Краснова; под редакцией Ю. Н. Бохана. — 3-е изд. — Минск: Аверсэв, 2014. — 79 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-1226-7.

**Маліноўскі, М.** Кніга ўспамінаў / Мікалай Маліноўскі; пераклад з польскай: Кісялёва Я. М.]. — Мінск: Лімарыус, 2014. — 238 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6968-39-9 (у пер.).

**Панов, С. В.** История Беларуси: вторая половина XIII – первая половина XVI в.: 7-й класс: рабочая тетрадь: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения: [приложение к учебному пособию «История Беларуси: вторая половина XIII – первая половина XVI в.» для 7-го класса (под редакцией Ю. Н. Бохана)] / С. В. Панов. — 5-е изд. — Минск: Аверсэв, 2014. — 112 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-19-1225-0.

**Панов, С. В.** История Беларуси с древнейших времен до середины XIII в.: 6-й класс: рабочая тетрадь: [приложение к учебному пособию «История Беларуси с древнейших времен до середины XIII в.» для 6-го класса (под редакцией Г. В. Штыхова, Ю. Н. Бохана)]: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / С. В. Панов. — 5-е изд. — Минск: Аверсэв, 2014. — 108 с. — 10100 экз. — ISBN 978-985-19-1223-6.

**Паноў, С. В.** Гісторыя Беларусі: канец XVIII – пачатак XX ст.: 9-ты клас: рабочы сшытак: дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання: [дадатак да вучэбнага дапаможніка «Гісторыя Беларусі: канец XVIII – пачатак XX ст.» для 9-га класа (пад рэдакцыяй У. А. Сосны)] / С. В. Паноў. — 2-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2014. — 95 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-1228-1.

**Паноў, С. В.** Гісторыя Беларусі са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст.: 6-ты клас: рабочы сшытак: [дадатак да вучэбнага дапаможніка «Гісторыя Беларусі са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст.» для 6-га класа пад рэдакцыяй Г. В. Штыхава, Ю. М. Бохана]: дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання / С. В. Паноў. — 6-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2014. — 108 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-1224-3.

**Паўстанне 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі, Літве і Украіне: гісторыя і памяць**: зборнік навуковых артыкулаў / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі; [укладальнікі: В. В. Яноўская, А. У. Унучак, А. Э. Фірыновіч; рэдкалегія: А. А. Каваленя (старшыня) і інш.]. — Мінск: Беларуская навука, 2014. — 426 с. — Частка тэксту на рускай і ўкраінскай мовах. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1737-2 (у пер.).

**Пурышева, Н. М.** История Беларуси: ответы на экзаменационные вопросы: [для студентов] / Н. М. Пурышева, М. И. Старовойтов. — Минск: Тетралит, 2014. — 159 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-7081-07-3.

**Пушкін, І. А.** Гісторыя: (гісторыя Беларусі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі): канспект лекцый для студэнтаў усіх спецыяльнасцей / Пушкін І. А.; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт харчавання, Кафедра гуманітарных дысцыплін. — Магілёў: МгДУХ, 2014. — 137 с. — 56 экз. — ISBN 978-985-6985-04-4.

**Рывкин, М. С.** Хроника страшных дней: трагедия Витебского гетто / Михаил Рывкин, Аркадий Шульман. — Минск: Медисонт, 2014. — 235 с. — 240 экз. — ISBN 978-985-7085-37-8 (в пер.).

**Смольянинов, М. М.** Беларусь в Первой мировой войне 1914–1918 гг. / М. М. Смольянинов; Национальная академия наук Беларуси, Институт истории. — Минск: Беларуская навука, 2014. — 317 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1738-9.

**Трафімчык, А. В.** 1939 год і Беларусь: забытая вайна: [беларускі погляд на пачатак Другой сусветнай вайны] / Анатоль Трафімчык. — Мінск: А. М. Янушкевіч, 2014. — 225 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 700 экз. — ISBN 978-985-99340-2-5.

**Тухта, В. У.** Вяртанне з небыцця: [краязнаўчы нарыс аб лётчыку-знішчальніку Мікалаю Пшонку] / Валерый Тухта, Маргарыта Анікей. — Мінск: Медысонт, 2014. — 31 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7085-48-4.

**Хатынский некрополь**: документы и материалы / Департамент по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь, Национальный архив Республики Беларусь, Центральный архив Комитета государственной безопасности Республики Беларусь; [составители: А. Ф. Буболо и др.; редколлегия: В. И. Адамушко и др.]. — Минск: НАРБ, 2014. — 249 с. — Часть текста на белорусском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-6372-77-6.

**Хатынь**: трагедия и память: документы и материалы / Департамент по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь [и др. — 2-е изд., переработанное. — Минск: НАРБ, 2014. — 268 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6372-76-9.

**Чаропка, В.** Героі паўстання 1863 года / Вітаўт Чаропка. — Мінск: Харвест, 2014. — 335 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-2945-9 (у пер.).

**Черепица, В. Н.** Гродненский исторический калейдоскоп: очерки истории, историографии и источниковедения: монография / В. Н. Черепица; Гродненский государственный университет им. Янки Купалы. — Гродно: ГрГУ, 2014. — 599 с. — 75 экз. — ISBN 978-985-515-740-4 (в пер.).

**Шарков, А. В.** Под крестом судьбы / А. В. Шарков, В. В. Грозов, Ю. А. Бествицкий. — Изд. 2-е., дополненное. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата): Международный благотворительный фонд «Семья – единение – Отечество», 2014. — 444 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-760-6 (Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата). — ISBN 978-985-7072-08-8 (Международный благотворительный фонд «Семья – единение – Отечество») (в пер.).

**Ярашук, М. В.** Асташына: гісторыя старэйшай вёскі Навагрудчыны / Ярашук М. В.; Аддзел адукацыі, спорту і турызму Навагрудскага райвыканкама. — Мінск: Медысонт, 2014. — 197 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7085-35-4.



***Давідовіч, С. Ф. Дзівос з дзівосаў: казкі зблізку і здалёку / Сяргей Давідовіч; [мастак Сяргей Волкаў]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014. — 148 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-02-1597-0 (у пер.).***

*Эдгар По калісьці пісаў пра тое, што сапраўды варты ў мастацкім сэнсе тэкст не можа быць адкрыта павучальным. Складана не пагадзіцца з выдатным паэтам і празаікам. А што рабіць аўтарам, якія пішуць для дзяцей, таму імкнуцца не проста прадумаць сюжэт, але і зрабіць чытанне як мага больш карысным? Прынамсі адно выйсце ёсць: схаваць павучальнасць у падтэкст, зрабіўшы саму кнігу вясёлай і забаўляльнай. Менавіта так робіць вядомы пісьменнік Сяргей Давідовіч у казках, што ўвайшлі ў яго новую кнігу.*
*І дзецям цікава, і для бацькоў і настаўнікаў карысць.*



***Жураўлёў, В. П. Непадкупны суд памяці: творчасць Анатоля Кудраўца / В. П. Жураўлёў; [навуковы рэдактар У. В. Гніламёдаў]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, Філіял «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы». — Мінск: Беларуская навука, 2014. — 133 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1733-4.***

*Новае даследаванне доктара філалагічных навук Васіля Жураўлёва прысвечана асэнсаванню творчай спадчыны празаіка Анатоля Кудраўца. У гэтай рабоце аўтар звяртае ўвагу на аповесці «Раданіца», «Развітанне», раман «Пасеяць жыта» і апавяданні пісьменніка, аналізуючы іх паэтыку ў кантэксце літаратурнага працэсу. Сур'ёзная ўвага ў кнізе на-даецца выяўленню агульнага і адметнага, тыповага і своеасаблівага ў мастацкай сістэме твораў Анатоля Кудраўца. Думаецца, кніга зацікавіць літаратуразнаўцаў, выкладчыкаў ВНУ і настаўнікаў, стане выдатным дапаможнікам у працы па аналізе твораў гэтага незвычайнага празаіка.*

**На знаёмства з сучасным Азербайджанам**

**Сёння проза Азербайджана — у пошуку не толькі новых тэм, але і новых мастацкіх плыняў. Пісьменнікі ўважліва аглядаюць увесь свет, зазіраюць у нацыянальны космас іншых краін і народаў. Відаць, сучасны азербайджанскі празаік Камран Назірлі — такі ж актыўны шукальнік. Але апавяданне, якое зараз мы прапануем чытачу ў перакладзе на беларускую мову, — адлюстраванне і знаёмага нам савецкага вопыту жыцця.**
**Камран Назірлі нарадзіўся ў 1958 годзе ў горадзе Астара. Аўтар кніг «Казка пра каханне», «Сярод родных», «Раніцай узыдзе сонца», «Бабуля, раскажы пра бацьку» і іншых. Перакладчык на азербайджанскую мову прозы і паэзіі Дж. Лондана, Э. По, А. Уайльда, Дж. Галсуорсі, Э. Хемінгуэя ды іншых сусветна вядомых пісьменнікаў.**

**Ад перакладчыка**



Камран НАЗІРЛІ

# Зія і Леанід Ільіч Брэжнеў

*Апавяданне пра Хваласпеў*

## ПАЧАТАК

Ёсць такі выраз: за што купіў, за тое і прадаў.

Калі я вучыўся ў сярэдняй школе, наш настаўнік, якога звалі Націк, часта цытаваў перлы нашых «мудрых дзядоў». Калі чуеш, што цябе ўхваляюць, падумай: а ці варты ты гэтай ухвалы? Калі не варты, то значыць, што з цябе насміхаюцца. І гэта ў той час, калі хваласпевы ў краіне раздаваліся за бясцэнак (нават па тагачасных цэнах), — эпоху Брэжнева помняць нават мае сучаснікі. Трэба аддаць яму вартае — ён быў добрым чалавекам, светлая яму памяць! Няхай супакоіцца душа і Націка-муаліма — аказваецца, у тыя правільныя часіны ён гаварыў нам разумныя рэчы, але мы гэтага не адчувалі. Хаця я яшчэ тады наматаў на вус яго словы, але іх значэнне я пачаў разумець толькі зараз.

Праўда, пазней мне стала вядома, што гэтыя словы не былі сказаны ні Брэжневым, ні Сталіным, і не Леніным; яны не былі сказаны і тымі, хто ўладарыў пасля іх. Мае ўласныя доследы даказалі, што гэтыя мудрасці мелі месца яшчэ ў антычнай літаратуры, Евангеллі, Каране, а таксама ў многіх казаннях пра нашых пракокаў. Выходзіць, Націк-муалім нам толькі зубы загаворваў, нашэптваў нам у вушы гэтыя мудрасці. Можа быць, менавіта таму ў мяне цяпер праблемы са слыхам, часам у вушах шуміць. Але паўтараю, трэба гаварыць праўду: няшчасны Націк-муалім не вінаваты — калі б ён не прыпісваў гэтыя мудрыя словы нашым «уладарам», то яго выключылі б з партыі. Неяк аднойчы я нават жонцы сказаў, што светлай памяці Націк-муалім быў мудрым чалавекам, бо ён так памайстэрску ахарактарызаваў Брэжнеўскую эпоху, што нам нават прысніцца не магло, на што ён намякае…

## СЯРЭДЗІНА

А цяпер, спадзеючыся на ваша цярпенне, хачу расказаць пра свайго трохгадовага ўнука Зію. Нядаўна ён ізноў зазірнуў да нас. Мы вельмі радуемся, калі ён прыходзіць. І калі ён сыходзіць, мы радуемся не меней; бо ён з'яўляецца самай што ні ёсць радыкальнай апазіцыяй! Зіёй унука назваў я сам, бо жадаў убачыць яго адукаваным, інтэлігентным чалавекам. А ён… Варта гэтаму маленькаму разбойніку прыйсці да нас, як ён пачынае адразу ж усё вакол разбураць, крышыць. Я ўставіў яго вялікі фотаздымак у шкляную рамку і аберагаў як толькі мог. Каб пры чарговым яго наведванні паказаць яму і тым самым пазбавіць яго жадання разбураць дом. Таму я вырашыў адразу ж паказаць яму здымак, змяніць тактыку. Пачаў хваліць яго, бо хваласпевы любяць усе. І вось што сказаў унуку:

— Зія — вельмі добры хлопчык! Зія — любімы ўнучак дзядулі! Зія — проста разумнік! Зія — лепшы ў свеце…

Непаспеўядагаварыцьапошнююфразу, як унучак, з апошніх сіл выслухаўшы мае прызнанні ў любові, не вытрымаў і з усяе сваёй трохгадовай сілы ўрэзаў мне добрую аплявуху. Клянуся Алахам, у мяне іскры з вачэй пасыпаліся. Убачыла гэта мая дачка Наргіз і выплюхнула сваё даўняе незадавальненне:

— Вось бачыш, бацька, як ты псуеш яго? Траціш неверагодныя грошы, каб уставіць фотаздымак у рамку! Ты яго песціш, няма чаго яго хваліць! Калі ён бачыць цябе, яму дах зносіць, пачынае ўсё вакол ламаць, біць…

Памерыўшы цётку позіркамі з-пад ілба, унучак поўнасцю задаволіўся сабой. Раскінуўся на дыване і, можа быць, хацеў усім сказаць, што я, маўляў, вам не Брэжнеў які-небудзь! Не ведаю чаму, але я раптам чамусьці падумаў пра гэта. А ўнук узяў пульт і пачаў уключаць і выключаць тэлевізар. Пасля забег у пакой Наргіз і выцягнуў з шафы ўсе скрыні. Затым вярнуўся і шпурнуў на падлогу бабуліну крышталёвую вазу, якую яна захоўвала як падарунак сваіх бацькоў. Але гэтым разам пашчасціла. Ваза не разбілася. Праўда, ад груку крышачку і Зія спужаўся. Але гэта яго не спыніла. Унук падышоў да камп'ютара дзядзькі — і нагой моцна ўдарыў па працэсары. Затым ён спыніўся каля свайго вялікага партрэта. Уважліва ўглядзеўшыся ва ўласную выяву, ён раптоўна, быццам убачыў за шклом д'ябла, нанёс кулаком такі рэзкі ўдар, што шкло разляцелася на кавалачкі. Хлапчанё завохкала і адразу ж схавалася за дзвярыма, каб ніхто не бачыў яго скрыўлены ад болю твар… Усталявалася нечакана поўная цішыня.

Яшчэ крыху цярпення, і я прадоўжу свой аповед… Ізноў успомню светлай памяці Націка-муаліма. Як бы не хацелася яго забыць, нічога не атрымліваецца. І як толькі ўспамінаю пра яго, перад вачыма паўстае Брэжнеў. Я не ведаю, з чым гэта звязана, Бог бачыць, я і сам дзіўлюся: чаму менавіта Брэжнеў? Чаму не Сталін, чаму не Ленін, а менавіта Брэжнеў? Мала таго, перад вачыма нейкія помнікі, партрэты… і яшчэ чорт ведае што, нешта з'яўляецца, круціцца, як стары ветраны млын.

Клянуся нашым мінулым, сапраўдным і будучым, Брэжнеў быў варты ўсялякай хвалы. Такога добрага і мяккага кіраўніка дзяржавы, як ён, гісторыя не помніць. Прыкладны сем'янін, сціплы, працалюбівы… і выдатны военачальнік! Ён быў увасабленнем усіх станоўчых якасцей, якія ўласцівы кіраўніку.

Так, гэта зараз падобныя выказванні патрабуюць смеласці! Гаварыць такія хваласпевы пры жыцці Леаніда Ільіча было прасцей простага! Пагаворым жа на чысціню: як жыў гэты чалавек, як ён працаваў і як памёр? Як яго хвалілі, як яго ахоўвалі і як яго забілі? З-за чаго памёр гэты чалавек, што ён забраў на той свет разам з сабою? Хто забіў яго? Якія рысы Леаніда Ільіча хаваліся ад народа і па якой прычыне? У апошні час я часта задумваюся над гэтымі пытаннямі. А прычыну патлумачыць ніяк не магу! Няхай кожны разумее як заўгодна — я таксама, як і мой дзед, бацька, браты і сёстры, быў брэжнеўцам! Скажу шчыра: я заўсёды апладзіраваў яму, пеў хвалебныя оды. Вешаў над галавой яго партрэты. З зайздрасцю глядзеў на чатыры чырвоныя зоркі Героя, што ўпрыгожвалі яго. Я клаў кветкі да яго помнікаў і бюстаў. І літаральна абагаўляў гэтага чалавека з густымі брывямі, вялікімі вачыма і добрым тварам… Па праўдзе кажучы, часам я думаю, што такую, здавалася б, непарушную савецкую ўладу разбурыў не Брэжнеў, а Гарбачоў! Разбурыў, папершае, з-за зайздрасці! А па-другое…

Якраз пра гэта «па-другое» я і хачу пагаварыць!

Каб не быць галаслоўным, заўважу, што ў той велізарнай краіне не было ніводнага месца, дзе б не мелася бюста, партрэта ці помніка Леаніду Ільічу. Гэта не прыдумка — я бачыў гэта ўласнымі вачыма. Начорта тыя ўхвалы (хаця, я не стамляюся паўтараць, што гэты чалавек быў варты ўсялякіх пахвал!) — на гэтыя помнікі было патрачана гэтулькі грошай, што ў выніку казна савецкай дзяржавы істотна апусцела і сродкаў на ўтрыманне народа не хапала. Голад не цётка — галоднаму чалавеку жыццё не ў радасць, ён можа так разысціся, што нічым не спыніш! Таму народ і разбурыў гэтую дзяржаву. Помнікі і партрэты ўжо не мелі ніякага сэнсу — іх разабралі, развалілі, спалілі, а тое, што засталося, сабралі ў кучу і прэч з вачэй!

Вось так… Пра што гэта я? Забыўся зусім! Дык вось, калі памёр Брэжнеў, я служыў у арміі. У той час усе гаварылі, што на яго месца прыйдзе Гарбачоў… (Праўда, яго прыход да ўлады атрымаўся запозненым, але ён прыйшоў так, што мала не падалося!) Адзін з маіх армейскіх сяброў — калі не памыляюся, гэта быў высачэзны грузін па прозвішчы Бекауры — расказаў мне анекдот пра Брэжнева, які толькі што памёр. І я, схапіўшыся за жывот, упаў на зямлю. Аж вочы ў мяне праслязіліся — і калі прыйшоў «зампаліт» з першай роты і ўбачыў мяне з чырвонымі вачыма, ён падумаў, што я плакаў па памерлым.

— Малайчына, радавы Мамедаў! — сказаў ён. — У такі жалобны дзень ты плачаш.

Анекдот, які расказаў Бекауры, памятаю да гэтай пары: дык вось, Гарбачову прысніўся яго папярэднік Брэжнеў. Леанід Ільіч пытаецца ў новага Генсека:

— Ну, як вы, таварыш Гарбачоў, як справы?

— Стараннямі Раісы Максімаўны — нядрэнна, Леанід Ільіч! Праўда, сітуацыя складаная, але народ крочыць за мною шляхамі перабудовы…

— А ты кармі народ лепей, інакш ён будзе крочыць за мной у іншы свет…

Пасля разбурэння савецкай улады змяніліся і адносіны да Брэжнева. «Ідэальны Брэжнеў» вычарпаў сябе, з'явіўся «рэальны Брэжнеў». Але ўсё яшчэ знаходзіліся сярод нас тыя, хто станоўча ацэньваў яго ролю ў гісторыі. Напрыклад, мой бацька да самай смерці высока ацэньваў яго як гістарычную асобу. Гаварыў, што Брэжнеў — бацька камунізму, і менавіта ў яго эпоху мы жылі ў сапраўдным камунізме. Ён — заснавальнік Байкала-Амурскай магістралі, аўтар вядомай трылогіі «Малая зямля», «Адраджэнне», «Цаліна». Убачыўшы незадаволены выраз на маім твары, бацька дадаў:

— Вось пабачыш, усяго праз паўвека Брэжневу зноў будуць усталяваны помнікі. Ён застанецца адзіным нацыянальным героем на ўвесь свет. Увекавечаць яго імя яшчэ і таму, што ён быў не толькі мадэрністам-заходнікам, але і гістарычнай асобай, якая выратавала дзяржавы трэцяга свету ад галоднай смерці…

Мой бацька быў старым, ён — камуніст з немалым партыйным і працоўным стажам — умеў адрозніваць добрае ад дрэннага. Ён расказваў, што, калі склалі разам усе працы, напісаныя пра Брэжнева, то іх колькасць перабольшыць агульную колькасць твораў пра Леніна і Сталіна, разам узятых. Я помню, як мастакоў, намаляваўшых партрэт Брэжнева, паэтаў і пісьменнікаў, стварыўшых літаратурны вобраз Генсека, адзначалі дзяржаўнымі ўзнагародамі. Ну, што ж, я вельмі рады за іх! Але не гэта мяне цікавіць. Мяне цікавіць іншае…

… Калі я быў у Маскве, наведаўся да старой знаёмай майго дзеда — 90-гадовай Святланы Іванаўны. Яна жыла ў Астанкіна. Я падарыў ёй букет кветак — убачыўшы кветкі, жанчына спярша сумелася, а пасля ласкава запыталася:

— Няўжо ты таксама гандлюеш кветкамі, як твае землякі?

— Не, Святлана Іванаўна! А што дрэннага ў тым, што нехта гандлюе кветкамі?

— Ды нічога, я проста так… Твае землякі гандлююць на рынку кветкамі…

— Ну, не іншым жа яны гандлююць, а кветкамі! — адказаў я адразу, і мы засмяяліся. Яна пасадзіла мяне ў крэсла. Загадала служанцы (ці хатняй работніцы) прынесці нам чай. Надзеўшы акуляры, бабуля агледзела мяне з ног да галавы:

— У бібліятэках ёсць нямала матэрыялаў пра Леаніда Ільіча… Чаму ты імі не карыстаешся?

— Пра бібліятэкі я ведаю. Але вы — адзіная мая знаёмая, якой давялося ўбачыць і пазнаёміцца з Брэжневым і яго жонкай… Па праўдзе кажучы, мяне цікавяць тыя якасці Брэжнева, якія невядомы людзям…

Жанчына быццам шукала спрыяльную нагоду, каб выліць душу — яна ахвотна пачала расказваць пра Брэжнева. Адзначыла, што ў звычайным жыцці Брэжнеў быў вельмі простым чалавекам і вельмі добра ведаў, што ўсе хваласпевы ў яго адрас — няшчырыя. Ён не мог справіцца са сваім акружэннем. Святлана Іванаўна нават падкрэсліла, што асноўным вінаватым таго, што мова Леаніда Ільіча стала блытанай і малазразумелай, з'яўляецца крамлёўскі ўрач Чазаў. Леаніду Ільічу былі няправільна пастаўлены штучныя зубы. Яму неаднаразова раілі паехаць на лячэнне ў Германію, але ён адмаўляўся.

Чытайце на стар. 12 ►

Камран НАЗІРЛІ

# Зія і Леанід Ільіч Брэжнеў

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 11.**

А што да тлумачэнняў пра падарункі, паляванне і маёмасць, Святлана Іванаўна адзначыла, што Леанід Ільіч заўжды любіў падарункі, але болей за ўсё ён надаваў увагу каштоўнасцям.

— Так, ён любіў і паляваць, і вадзіць машыну. А што датычыць маёмасці, то тут, па вялікім рахунку, проста маняць. У Леаніда Ільіча была ўсяго адна машына і адна дача. І ўсё! Ён не меў ніякай нерухомасці ні ў Расіі, ні за мяжою. У мяне захоўваўся вялікі залаты жбан, які мне падарыла Віка… Пасля смерці Леаніда Ільіча гэты жбан забралі супрацоўнікі КДБ, паведаміўшы, што ён быў украдзены з дзяржаўнага музея нейкай замежнай краіны. Вікторыя Пятроўна была маёй блізкай сяброўкай, і, клянуся святой Марыяй, яна ўласнаручна падарыла мне гэты жбан, — сказала Святлана Іванаўна і заплакала.

— Чаму вы плачаце, Святлана Іванаўна? — вымавіў я. — Што было, тое прайшло, і травой зарасло! З-за нейкага жбана…

— Ды не ў жбане справа, — перабіла бабулька, пазіраючы некуды ўдалячынь. — Ведаеце, што стала згубным для Леаніда Ільіча на самай справе?

— Вось гэта цікава!

— Хвала! Хвалаcпевы ў яго адрас!..

— Але як? Усе ж, здаецца, любяць, каб іх хвалілі… Ці не так?

— Ну зразумела! Але ж трэба адчуваць мяжу. Я не раз бачыла, як яго акружэнне пастаянна хваліць яго. Менавіта пустая хвала і нішчыць, руйнуе дзяржавы і асоб! Усіх нашых кіраўнікоў дзяржаў згубілі хвалаcпевы! Няма нічога болей страшнага, чым хвалаcпеў! Усе мудрыя прамовы Леаніда Ільіча пісаў Суслаў, і калі ён чытаў іх Брэжневу, той радаваўся… Леанід Ільіч і сам быў вельмі граматным, але ён не любіў пісаць. Ён вылучаў добрыя ідэі. Ён сапраўды зрабіў вельмі шмат, прыўнёс у свет спакой і стабільнасць. У яго эпоху народы жылі ў большай бяспецы. Моцнай была вера ў будучыню. Але вы павінны напісаць адну горкую ісціну: наша магутная дзяржава знішчана хвалаcпевамі і хлуснёй!..

Успамінаючы мінулае, Святлана Іванаўна то плакала, то смяялася. Калі я сыходзіў, бабулька зноў сфатаграфавала мяне позіркам і, быццам хаваючы сакрэт ад служанкі, прашаптала:

— Выхоўвайце дзяцей без хлусні і хвалаcпеваў! Да дабра пустая хвала і хлусня не прывядуць…

КАНЕЦ

…Як я ўжо заўважыў, пасля таго, як унучак разбіў шкло, дома ўсталявалася доўгая, незвычайная цішыня. Здаецца, дзіця і само спужалася. Зія ціхенька падышоў да мяне і прыціснуўся. Мо хацеў нешта сказаць?.. На яго шчасце, зазвінеў званок у дзвярах — яго бабуля і цётка са злосцю пазіралі на Зію, быццам у кожную секунду былі гатовыя накінуцца на яго, як галодныя тыгры. Зія, моцна трымаючы мяне за руку, накіраваўся да дзвярэй. Гэта быў майстар, якога мы запрасілі раней, каб правесці ў кватэры дробныя рамонтныя работы. Прывітаўшыся, майстар стаў ля адчыненага акна і пачаў расказваць пра сваю работу. Не забываўся пры гэтым і часам сябе пахваліць. Трохгадовы Зія стаяў побач са мною і слухаў нашу размову, поўнасцю забыўшыся пра ўчыненае ім «злачынства». Я адчуваў, што дзіця ўтаропілася на майстра, спрабуючы пазнаць незнаёмага дзядзьку. У час гаворкі са мною майстар закурыў перад тым, як распачаць работу. А я між справай хваліў майстра, каб у яго быў стымул працаваць хутка і якасна. Нечакана Зія спытаў:

— Дзядзька майстар, а што ты там робіш?

Майстар азірнуўся на хлопчыка:

— Працую, — адказаў ён, усміхнуўшыся.

Мяне быццам токам працянула — я ўжо быў гатовы адкрыць рот, каб сказаць: ды што ты нясеш, сукін ты сын, навошта ты маніш дзіцяці, ты хіба працуеш? Але я нічога не сказаў — усё ж такі я быў вучнем Націкa-муаліма, і павінен быў маўчаць — сорамна ж крыўдзіць такога паважанага майстра! Ува мне прачнуўся савецкі чалавек… Але тут Зія літаральна з пляча секануў:

— Ты ж не працуеш, ты курыш!

Майстар засарамаціўся не на жарт — я адчуў, што адна шчака ў яго пачырванела. Ён выкінуў цыгарэту ў акно. Але Зія на гэтым не спыніўся:

— Ты навошта выкінуў недакурак у двор? Навошта смецце разводзіш? — спытаў ён з папрокам.

…Майстар пачырванеў на ўвесь твар.

…З таго дня майстар, прыходзячы да нас, спярша азіраецца па баках і пытаецца Зію. Толькі калі ўпэўніцца, што ўнучак пайшоў у дзіцячы сад, ён закасвае рукавы і спакойна распачынае працу. А калі яму захочацца пакурыць, выходзіць у двор і стаіць ля сметніцы…

*Ялта — Партэніт,*
*кастрычнік, 2012 г.*

**З азербайджанскай пераклаў**
**Павел АЛЬСОВЫ**

*1. Муалім — настаўнік (азерб.).*
*2. Зія — асвета, адукацыя (азерб.).*
*3. Тут, відаць, аўтар сумясціў розныя часіны. Памёр Л. І. Брэжнеў у 1982 г. А пра перабудову М. С. Гарбачоў абвясціў у 1985 годзе. Да яго прыходу да ўлады краінай паспелі пакіраваць Ю. У. Андропаў, К. С. Чарненка. Пэўна, анекдот — з болей позняга часу. —* ***Заўв. перакл.***

# Мастак, філосаф, празорца…

Сярод рукапіснай спадчыны выдатнага беларускага мастака Аляксандра Кішчанкі (1933 — 1997) ёсць такі верлібр:

*Мастацтва — гэта боская з'ява.*
*Толькі яму дадзена спыніць час.*
*Мастацтва можа разгадаць*
*Таямніцу будучыні,*
*А таксама аднавіць*
*Страчанае мінулае.*

З першых самастойных крокаў у сучасным мастацтве А. Кішчанка быў верны свайму крэда, выказанаму ў паэтычнай форме. Адразу пасля пераезду ў Мінск з Украіны ў 1963 г. ён стаў праслядоўна ажыццяўляць сваю праграму мастацкага рэфарматарства. Творчыя інавацыі Аляксандра Кішчанкі ў станковым жывапісе, мастацтве манументальнай мазаікі і габелена ў многім актывізавалі і мадэрнізавалі мастацкае жыццё нашай краіны, атрымалі вялікі міжнародны розгалас. Кожнае новае дзесяцігоддзе было для майстра часам новых пошукаў і знаходак у адлюстраванні чалавека ў сусвеце, гісторыі. А яго ўласны стыль набываў рысы своеасаблівага касмізму.

Мастака захапляла вобразная сувязь зямных рэалій і міжпланетнай прасторы. Праз аркады, вокны-ілюмінатары, створаныя майстрам у жывапісных і манументальных кампазіцыях, ён здзейсніў вандроўкі ў прасторы і часе.

Калі мастака-празорцы не стала, ролю захавальніка творчай спадчыны ўзяла на сябе яго жонка Ніна Кухарэнка-Кішчанка. Яе намаганні па папулярызацыі здабыткаў класіка і наватара беларускага мастацтва ў новым стагоддзі падтрымаў Банк развіцця Рэспублікі Беларусь. Узнікла ідэя выдаць кнігу-альбом «Аляксандр Кішчанка. Летапісец XX стагоддзя».

Рыхтавалі альбом у сталічным выдавецтве «Чатыры чвэрці», завяршылі працу хутка, літаральна за лічаныя месяцы (сакавік-красавік гэтага года). Уступнае слова напісаў кіраўнік Банка развіцця




Сяргей Румас. У складзе аўтарскага калектыву мастацтвазнаўцаў — Барыс Крэпак, Людміла Налівайка, Яўген Шунейка. У выданні ўпершыню падаюцца выказванні майстра пра мастацтва як сродак культурных перамен і эстэтычных пераўтварэнняў. Атрымалі мастацтвазнаўчую характарыстыку і перыяды жывапіснай творчасці мастака 1960 — 1990-х гг. Кансультацыі па шматлікіх пытаннях праводзіла Н. Кухарэнка-Кішчанка. Альбом трохмоўны: на беларускай, рускай і англійскай (у перакладзе Майкла Кроўлі).

Апрача шасці раздзелаў, прысвечаных жывапісу, некалькі частак альбома звязаны з мазаікамі і габеленамі Аляксандра Кішчанкі, большасць з якіх знаходзіцца на розных архітэктурных аб'ектах нашай краіны, так і за яе межамі.

Выданне «Аляксандр Кішчанка. Летапісец XX стагоддзя» — першая ластаўка праекта «Культурная спадчына Беларусі», які падтрымлівае Банк развіцця. Яго прэзентацыя ў залах Нацыянальнага мастацкага музея стала выбітнай падзеяй. Дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў і іншыя казалі пра пачатак прынцыпова новага асэнсавання мастацкіх здабыткаў Беларусі.

**Фелікс ГАРАДНІЧУК**

# Нататкі падарожніка

Магілёўшчына атрымала добры падарунак ад краязнаўцы, пісьменніка Віктара Арцем'ева. Амаль усе сто сорак восем старонак кнігі «Шчодрасць душы», якая выйшла сёлета ў магілёўскім выдавецтве «АмеліяПрынт», прысвечаны людзям і падзеям Шклоўшчыны, Краснаполля, Кругляншчыны, Чэрыкаўшчыны, Асіповічшчыны.

Аўтар уключыў у зборнік нататкі з вандровак па родных мясцінах у розныя гады жыцця, шэраг легенд, пачутых у Шклове і Чэрыкаве, колькі бытавых гумарэсак і бывальшчын, а таксама ўспаміны з паездак у Маскву, Уладзімір, Багалюбава, Баку, Адэсу, Баржомі. Атрымаўся своеасаблівы калейдаскоп цікавых матэрыялаў, многія з якіх, як можна зразумець з кантэксту, раней з'яўляліся ў перыядычным друку Беларусі, але ў кнігу ўвайшлі абноўленымі і дапоўненымі. Яны аб'яднаныя адзіным клопатам аўтара — захаваць культурную і гістарычную спадчыну Бацькаўшчыны.

Цікава чытаюцца эпізоды падарожжаў В. Арцем'ева ў далёкія ад радзімы мясціны: развагі пра побыт і культуру азербайджанцаў і абавязковае параўнанне (не, не проста з беларускім!) — магілёўскім, сваім; хвалюючая гісторыя пра франтавіка, Героя Савецкага Саюза, падводніка А. Марынескі, з нашчадкамі якога аўтар пазнаёміўся падчас паездкі ў Багалюбаў.

Яшчэ больш арыгінальныя запісы нястомнага вандроўніка з паездак у Карэліцкі раён і знакамітыя купалаўскія Ляўкі. Чытачы даведаюцца пра незвычайнага чалавека свайго часу Пятра Шчарбакова — старшыню калгаса, неверагоднага бібліяфіла з Кайшоўкі (Карэліцкі раён), які сабраў унікальную бібліятэку з каштоўнымі выданнямі. Магчыма, нехта з чытачоў адкрые таямніцу лёсу кайшоўскай хатняй бібліятэкі, якую пры жыцці гаспадара прапаноўвалі набыць за вялікія грошы палякі і чэхі і след якой пасля заўчаснай смерці П. Шчарбакова аўтар кнігі згубіў. Да месца прыведзены В. Арцем'евым і згадкі выпадковай спадарожніцы пра сустрэчы з Купалам у Ляўках.

Але самыя каштоўныя перліны зборніка «Шчодрасць душы» — гэта старонкі летапісу магілёўскага краю. Колькі цікавых асоб і лёсаў трапляе ў поле зроку аўтара! Гэта і прафесіяналы бібліятэчнай справы, апантаныя кнігалюбы Магілёўшчыны (М. Барадзінская, М. Ласоўскі), і таленавітыя музыкі (Я. Маланкоў), і майстры жывога мастацкага слова, артысты (В. Ермаловіч, З. Феакцістава).

Цікаўны чытач знойдзе ў зборніку адказы на цэлы шэраг неразгаданых пытанняў пра тых, чый лёс так ці інакш быў звязаны з Магілёўшчынай. Чаму магіла рускага мастака Мікалая Неўрава знаходзіцца ў вёсцы Лыскоўшчына і як ушаноўваецца памяць жывапісца? Што рабіў у вёсцы Карма-Пайкі малады пісьменнік Аляксандр Вампілаў (той самы, аўтар п'есы «Старэйшы сын», паводле якой створаны любімы многімі кінафільм з Леонавым, Карачанцавым і Баярскім у галоўных ролях)? Як у Віктара Карамазава на Магілёўшчыне нараджалася задума кнігі «Мастак і парабкі»? Калі паэт Аляксей Пысін, ураджэнец Краснаполля, вырашыў, што архіва ў яго не будзе? Чаму ў кішчыцкіх паўстанцаў свая праўда пра расстрэл 1905 года?..

«Хуткаплынны наш век. На маім жыцці колькі вёсак знікла з карты краю», — са скрухай зазначае В. Арцем'еў. У кнізе «Шчодрасць душы» сабрана тое, чым узбагачаецца наша нацыянальная памяць, таму вялікае шкадаванне выклікае невялікі наклад зборніка.

**Таццяна ХОМІЧ**

# Стымпанк ды іншае



Таццяна Гомза «Лампазаўр.»

Фота Кастуся Дробава

**Цэнтр сучасных мастацтваў запрашае на выстаўку «Каханне ніколі не заканчваецца», якая прадстаўляе сучасны латышскі жывапіс, сцэнаграфію, скульптуру і фатаграфію.**

Гэта больш за дваццаць буйнафарматных фотарэпрадукцый работ мастакоў: жывапіс Мікеліса Фішарса, Гірта Муйжніекса і Яніса Авоціня, інсталяцыі Катрыны Нейбургі і Крыстапа Гелзіса, а таксама фотаздымкі Інты Рукі, Арніса Балчуса ды іншых аўтараў.

Экспазіцыя створана па храналагічным прынцыпе. Назва «Каханне ніколі не заканчваецца» запазычана з аднайменнай працы «LOVENEVERENDS», якую ў 2008 годзе стварылі Сармітэ Маліня і Крыстапс Калнс. Інсталяцыя — іранічна-настальгічнае сузіранне прадметаў мінуўшчыны. У гэтым і канцэпцыя выстаўкі: паказаць нядаўнюю гісторыю і цяперашні стан латышскага мастацтва.

Цэнтр сучасных мастацтваў прэзентаваў і выстаўку «Стымпанк і іншыя дзейныя асобы». Прадстаўлены не толькі экспанаты, наўпрост звязаныя са стымпанкам, але і нетрадыцыйныя напрамкі ды віды мастацтва.

Стымпанк адлюстроўвае фантастычны свет, у якім чалавецтва пайшло па шляху ўдасканалення паравых машын і механізмаў, пры гэтым электрычнасці была адведзена адно дапаможная роля. Стылістыка гэтага напрамку, яго дух навукі і прыгод, механізаваная эстэтыка і выдуманы свет збольшага сугучныя рамантыцы віктарыянскай эпохі. Стымпанк-супольнасць створана і ў Беларусі. У Мінску ўжо было праведзена некалькі культурных акцый, такіх як «Стымпанк-трамвай», стымпанк-вечарынка «Дырыжабль».

Выстаўку «Стымпанк і іншыя дзейныя асобы» складаюць работы Уладзіміра Цэслера, Дзяніса Барсукова, Марыі Барысенкі, Уладзіміра Голубева, Алеся Міхалевіча, Ганны Сілівончык, Рамана Сустава і інш.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**



Дзіяна Кірута «Джон Ленан».

*З пошты «ЛіМа»*

# Наша песня ў Ліёне

**Воляй лёсу аўтару гэтых радкоў, выкладчыку Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, у 1970-я гг. пашанцавала патрапіць па прапанове Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР у Францыю — для выкладання рускай мовы на факультэце гуманітарных навук Ліёнскага ўніверсітэта II.**

Да гэтага часу мне ўжо даводзілася працаваць з групай французскіх студэнтаў, якія прыязджалі ў Мінск удасканальваць веды па рускай мове. Як і пры першай сустрэчы, для таго каб засяродзіць увагу на фанетыцы, я прапанаваў навучэнцам «Песню трывожнай маладосці» Аляксандры Пахмутавай. Патрыятычная мелодыя натхняла выканаўцаў, якія часам не разумелі слоў. Выкладанне рускай мовы з дапамогай спеваў, як і выкладанне французскай, дапамагалі і дапамагаюць студэнтам авалодваць не толькі фанетыкай, але і другімі аспектамі: вуснай практыкай, чытаннем, засвойваннем гукаў, слоў, сказаў і інш.

Падчас працы ў Францыі на працягу трох навучальных гадоў (1969—1972) мы стварылі хор рускай песні. У праграму канцэртаў былі ўключаны і песні Вялікай Айчыннай вайны кампазітара Марка Фрадкіна: «Песня пра Сталінград», «Бярозы» з кінафільма «Першы дзень міра», песня, прысвечаная эскадрыллі «Нармандыя «Нёман» і інш.

**Сяргей ГАЛОЎКА, фота аўтара**



Група студэнтаў Францыі (ВНУ) на курсах рускай мовы ў Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце замежных моў, 1969 год, верасень.

# Конкурс… фіялетавы

**Днямі ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» прайшла цырымонія ўзнагароджання пераможцаў VIII Рэспубліканскай выстаўкі сучаснай візуальнай творчасці студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі «АРТ-АКАДЭМІЯ».**

Экспазіцыя ладзіцца ў нашай краіне восьмы раз, і ўжо была зялёнай, сіняй, жоўтай, блакітнай, чырвонай, белай, аранжавай… Сёлета атрымала назву «Фіялетавы. Спакуса незвычайнасцю».

Зала ўстановы літаральна перафарбавалася ў фіялетавы колер, і таму атмасфера панавала містычная і таямнічая. Экспазіцыю склалі творы прафесіяналаў і аматараў, выкананыя ў розных тэхніках выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Былі прадстаўлены жывапіс, акварэль, габелен, бісерапляценне, вышыўка, фатаграфія і г. д.

Выстаўка аб'яднала юных творцаў з усіх рэгіёнаў краіны. У конкурсе ўзялі ўдзел індывідуальныя аўтары і творчыя студэнцкія калектывы, студыі дызайну, фота, выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, тэатры моды устаноў вышэйшай адукацыі. Экспертная група вызначыла пераможцаў у намінацыях, адзначыла лепшыя работы дыпломамі і прызамі.

«Праект — выдатная магчымасць праявіць сябе, раскрыць уласныя таленты»,— зазначыла Наталля Пшанічная, начальнік упраўлення па справах моладзі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Арганізатары сёлетняй выстаўкі — Міністэрства адукацыі і Міністэрства культуры краіны, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, Нацыянальны цэнтр мастацкай творчасці дзяцей і моладзі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Лепшыя з 84!

Больш як 60 гадоў Еўрапейскі маладзёжны музычны фестываль у Бельгіі (г. Неерпелт) збірае тысячы маладых музыкантаў з розных краін свету. Сёлета Неерпелт гасцінна прымаў гасцей з 20 краін, у тым ліку аркестр народных інструментаў Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа (мастацкі кіраўнік і дырыжор Алена Сечка).

Калектыў стаў першым па суме балаў сярод 84 аркестраў-удзельнікаў і заваяваў Гран-пры ў намінацыі «Лепшыя аркестры і ансамблі з рознымі інструментамі». У складзе журы — каля 35 вядомых музыкантаў з 14 краін свету.

Лідчане скарылі еўрапейскую публіку не толькі высокім майстэрствам, але і рэпертуарам — творамі замежных і беларускіх кампазітараў розных эпох, жанраў, стыляў і напрамкаў.

Чарговая перамога калектыву — новая прыступка ў творчай біяграфіі. З 2011 года аркестр бярэ ўдзел у розных міжнародных фестывалях-конкурсах і становіцца найлепшым: у 2011-м — г. Белфарт (Францыя), 2012 — г. Ланчыяна (Італія), 2013 — г. Нясебр (Балгарыя), 2014 — г. Коста-Брава (Іспанія). Цяпер музыканты аркестра народных інструментаў рыхтуюцца да ўдзелу ў VIII Міжнародным фестывалі аркестраў мандалін і гітар у г. Рэмірамонт (Францыя).

Фестываль у Неерпелце — гэта яшчэ і штодзенныя святочныя шэсці-парады, вячэрнія канцэрты з удзелам ансамбляў і аркестраў, канцэрты «сяброўства» як музычная кульмінацыя міжнароднай еднасці, дзе моладзь з усяго свету вучыцца ацэньваць іншыя культуры праз музыку.

**Вера ЧАРНЯК**



Фота з сайта www.emj.be

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

# Подзвіг. Навуковы



**У гісторыі Вялікай Айчыннай яшчэ неаднойчы будзе згадвацца імя ўраджэнца старажытнага Ігумена Рыгора Стронгіна.**

Стронгіны — распаўсюджанае на Ігуменшчыне прозвішча. У мястэчку Пухавічы нарадзіўся адзін з першых арганізатараў выдавецкай справы ў Савецкай Беларусі Леў Стронгін. З сярэдзіны 1920-х жыў у Маскве. Арганізаваў яўрэйскае кніжнае выдавецтва Савецкага Саюза. У час Другой сусветнай уваходзіў у Яўрэйскі Антыфашысцкі камітэт. А што да Рыгора Міхайлавіча, то ў Вялікую Айчынную вайну ён здзейсніў навуковы подзвіг.

Бутэлька з узгаральнай сумессю — дзейсны сродак барацьбы. Але першае пахаладанне, начныя маразы паказалі, што бутэлькі разбіваюцца аб браню і не ўзрываюцца. Прычына — нізкія тэмпературы. З Масквы ў розныя навукова-практычныя, навукова-вытворчыя цэнтры ідзе загад распрацаваць новую лёгкаўзгаральную сумесь.

Рашэнне шукае на Чарнарэчанскім хімічным заводзе, што ў Ніжагародскай вобласці, і начальнік аддзела Рыгор Стронгін. Поспех прыходзіць не адразу. Працавалі суткамі. Пазней Стронгін бу-дзе ўспамінаць: «Стан душы быў складаны. Усё перабралі, усё паспрабавалі, а рашэння праблемы няма. Знойдзена яно было нечакана. Выбраўся на некалькі гадзін дахаты — паглядзець уласную бібліятэку (а яна ў Стронгіна была ўнікальная: 6000 (!) тамоў выключна па хіміі. — **М. Р.**). Усё перагартаў — ніводнай падказкі. Узяў па інерцыі з паліцы кнігу, прысвечаную палімерам. І раптам прыходзіць ясна акрэсленая думка: трэба атрымаць палімер. Не ведаю, ці было гэта азарэннем ці вынікам напружанай працы, калі ўжо дастаткова зусім дробнага намагання розуму, каб зрушыць з месца ўсю глыбу праблемы, толькі я інтуітыўна быў упэўнены: гэта правільны шлях».

Так нарадзілася славутая супрацьтанкавая зброя — лёгкаўзгаральная сумесь «КС». З кастрычніка 1941 г. пачала паступаць на фронт. Ёсць такая статыстыка: з 1700 знішчаных пад Масквою танкаў 1300 былі ўзарваны з дапамогай «КС».

З Чэрвенем-Ігуменам звязана самае ранняе дзяцінства Рыгора. З пачаткам Першай сусветнай Стронгіны пакінулі Ігумен і выехалі ўглыб Расіі. Бацька працаваў грузчыкам, станочнікам. Жылі спярша ў Кінешме Іванаўскай вобласці. Бацька хутка памёр, маці засталася з трыма дзецьмі. Старалася выканаць запавет мужа — даць сынам адукацыю.

У 1932 г. Р. Стронгін закончыў Іванаўскі хіміка-тэхналагічны інстытут. Размеркаванне атрымаў на вытворчае аб'яднанне «Корунд» імя М. І. Калініна. Прайшоў шлях ад інжынера-механіка да начальніка даследчыцкай лабараторыі. З 1941 г. Рыгор Міхайлавіч загадвае цэнтральнай лабараторыяй Чарнарэчынскага хімічнага завода.

Пасля вайны Стронгін заняўся новай справай — вытворчасцю (а спярша — вынаходніцтвам) ядахімікатаў для барацьбы з саранчою і іншымі шкоднікамі сельскагаспадарчых культур. За арганізацыю вытворчасці гексахларану ў масавым маштабе супрацоўнікі завода атрымалі ў 1950 г. званне лаўрэатаў Сталінскай прэміі.

Р. Стронгіну і яго паплечнікам належыць вынаходніцтва і лекаў для барацьбы з туберкулёзам. Праца адзначана Дзяржаўнай прэміяй СССР.

У 1954 г. кандыдата тэхнічных навук Р. Стронгіна выбіраюць старшынёю праўлення абласнога аддзялення Усесаюзнага хімічнага таварыства імя Д. Мендзялеева, членам прэзідыума Усесаюзнага таварыства. Аддзяленне ў Горкаўскай вобласці аб'ядноўвала больш як 4 тысячы чалавек. Сярод іх — акадэмік, дзевяць доктараў хімічных навук, 124 кандыдаты навук. Большасць з іх працавала ў Дзяржынску, дзе і знаходзіўся завод Стронгіна. Рыгор Міхайлавіч паказаў сябе выдатным арганізатарам. Менавіта дзякуючы яго ініцыятывам праводзіліся навукова-практычныя канферэнцыі. У Горкаўскую вобласць, непасрэдна ў Дзяржынск, прыязджалі з лекцыямі знакамітыя вучоныя-хімікі з самых розных куткоў Савецкага Саюза. Рыгор Міхайлавіч прыклаў шмат намаганняў для заснавання ў Дзяржынску тэхнічнай бібліятэкі. Яна і цяпер лічыцца адной з лепшых у Ніжагародскай вобласці.

У 1963 — 1970 гг. Р. Стронгін займаў пасаду загадчыка кафедры неарганічных рэчываў Горкаўскага політэхнічнага інстытута. Рыгору Міхайлавічу прысвоілі званне заслужанага вынаходніка РСФСР. Лаўрэат Сталінскай прэміі, двойчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, ён быў узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, «Знак Пашаны», медалямі. У 1987 г. Стронгіну прысвоена званне «Ганаровы грамадзянін горада Дзяржынск Ніжагародскай вобласці».

Памёр Рыгор Міхайлавіч у 1989 г. У Ніжнім Ноўгарадзе жывуць яго сыны Раман і Леанід. Раман — доктар фізіка-матэматычных навук, адзін з найбуйнейшых сучасных расійскіх матэматыкаў. У 2003 — 2008 гг. — рэктар Ніжагародскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ганаровы грамадзянін Ніжняга Ноўгарада. Леанід — прафесар, доктар медыцынскіх навук, прарэктар Ніжагародскай медыцынскай акадэміі.

**Мікола РАЎНАПОЛЬСКІ**

# Брэсцкі акварыуміст

Яшчэ да нядаўняга часу, калі захапленне дэкаратыўнымі рыбкамі мела папулярнасць, днём з агнём было не адшукаць які-небудзь дапаможнік па акварыумістыцы. А між тым яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя такой літаратуры хапала. І найбольш дасведчаны аўтар — наш зямляк Мікалай Залатніцкі.

На жаль, звестак пра Залатніцкага няшмат. Няма дагэтуль нават яго прозвішча ў «Беларускай Энцыклапедыі». Нарадзіўся Мікалай Фёдаравіч у 1850 годзе ў Брэст-Літоўску. З цягам часу захапіўся батанікай, садаводствам, іхтыялогіяй. Закончыў ў Дрэздэне педагагічнае вучылішча. Потым — вучоба ў 5-й маскоўскай гімназіі, фізіка-матэматычны факультэт Маскоўскага універсітэта.

Спакваля Залатніцкі становіцца прапагандыстам акварыумаў у Расіі. У 1904 годзе вучоны выдае ў Маскве кнігу «Акварыум аматара», у 1906-м — «Школьны акварыум і тэрарыум». Вядомасць у свой час набыла і кніга Мікалая Залатніцкага «Нашы садовыя кветкі, гароднiна і плады» (выдадзена ў 1911 годзе). Шмат друкаваўся наш зямляк у такіх выданнях , як «Сад и огород», «Природа и охота», «Московские ведомости», «Естествознание и география», «Нива», «Родник», «Аквариум и комнатные растения», «Природа и люди», у замежных прыродазнаўчых часопісах.

Дарэчы, пра «Беларускую Энцыклапедыю»… Трэба ўсё ж аддаць даніну павагі выдавецтву ў справе ўшанавання памяці М. Залатніцкага. У 1994 годзе ў «БелЭн» пабачыла свет рэпрынтнае выданне кнігі брэсцкага натураліста «Цветы в легендах и преданиях» (узноўлена яно было па кнізе 1913 года, якая ўпершыню пабачыла свет ў Санкт-Пецярбургу). Між іншым, сучасны тыраж выдання склаў 50 тысяч экзэмпляраў! Кніга разышлася, знайшла свайго чытача, за што застаецца толькі падзякаваць беларускім энцыклапедыстам. Як, дарэчы, паспадзявацца, што з цягам часу імя Залатніцкага будзе ўшанавана ў адным з будучых выданняў «Беларускай Энцыклапедыі».

Калі ж пра перавыданне кніг М. Залатніцкага, то мо хто зверне ўвагу на такія яго работы, як «Наш садик», «Детский аквариум», «Новые аквариумные рыбы и растения». Паверце, паважаныя выдаўцы, чытач будзе вам вельмі ўдзячны!

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Радкі любові

**Літаратурна-музычную кампазіцыю «Жанчына, каханне, вясна» прадставілі на суд гледачоў актывісты Цэнтра беларускай культуры «Голас Радзімы» ўкраінскага абласнога цэнтра Мікалаева.**

Свята ладзілася ў межах XII абласнога фестывалю славянскіх народаў. З'ехаліся сапраўдныя прыхільнікі беларускай культуры. Сярод ганаровых гасцей — Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Адэсе Валянцін Філіпчык, начальнік упраўлення культуры, нацыянальнасцей і рэлігій абласной дзяржаўнай адміністрацыі Міхаіл Дзмітрыеў, старшыня Савета старэйшын Савета нацыянальнасцей Мікалаеўскай вобласці Мурат Каймаразаў, Старшыня Савета нацыянальнасцей Мікалаеўскай вобласці Лаліта Каймаразава, дэпутат Мікалаеўскага гарадскога савета Уладзімір Худзякоў, старшыня Бармашоўскага сельскага савета Сяргей Расоха.

Вершы беларускіх паэтаў гучалі ў выкананні актывістак Цэнтра беларускай культуры «Голас Радзімы» Галіны Міняйла, Кацярыны Раманенка, Таццяны Бусько, Галіны Голуб. Святочную атмасферу ствараў і вакальны калектыў Цэнтра беларускай культуры, удзельнікі якога спявалі беларускія народныя песні.

Свята беларускай паэзіі ва ўкраінскім Мікалаеве нікога не пакінула абыякавым. Так, Лаліта Каймаразава прызналася, што закаханая ў самабытную беларускую культуру, беларускую паэзію — яркую, шчырую, душэўную. Яна ўручыла калектыву цэнтра «Голас Радзімы» дыплом за значны ўклад у развіццё роднай мовы і культуры і за актыўны ўдзел у арганізацыі і правядзенні XII абласнога фестывалю славянскіх народаў.

Ганаровую Грамату за плённую працу па папулярызацыі беларускай культуры ва Украіне і ўмацаванне дружбы паміж братнімі народамі Беларусі і Украіны Цэнтру беларускай культуры ў Мікалаеве ўручыў Валянцін Філіпчык.

Пры канцы музычна-паэтычнага вечара кіраўнік Цэнтра беларускай культуры Таццяна Дзяменнікава пажадала гасцям жыць у міры і згодзе, кахаць і быць каханымі.

**Мікалай БОЙКА**

# І словам, і зброяй

Вечарына «Пісьменнікі Уздзеншчыны на франтах Вялікай Айчыннай» прайшлаў Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя П. Труса. Пачалася яна з кінахронікі ваенных часоў. Вось гледачы бачаць, як за тыдзень да пачатку баявых дзеянняў малады лейтэнант Алесь Махнач прыбыў у Брэсцкую крэпасць, каб стаць у адзін рад з яе абаронцамі. Быў паранены, трапіў у палон…

22 чэрвеня 1941 года Алесь Якімовіч разам з калегамі выпраўляецца на Палессе — на здымкі кінастужкі паводле сваіх твораў… Пятро Глебка стварае для прыфрантавых газет «За Савецкую Беларусь», «За свабодную Беларусь», часопіса «Партызанская дубінка» сваю знакамітую «Зямлянку», лірычныя творы. Кандрат Крапіва адкладвае працу над п'есамі, іншымі аб'ёмнымі творамі і рэдагуе газету-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну».

З першых дзён вайны ў дзеючай арміі Ільля Гурскі ў франтавых умовах рэдагуе газету… Антон Бялевіч, карэспандэнт «Звязды», бярэ камандзіроўкі ў тыл ворага, каб занатаваць гераічную барацьбу бацькі Міная, партызан ды падпольшчыкаў з ворагам. «Пісаць пра вайну — мой святы абавязак, пра гэта я абяцаў тым, з кім ваяваў, і некаторыя з іх не прычакалі перамогі», — такі запавет на працягу ўсяго пасляваеннага жыцця выконвае разведчык, падрыўнік партызанскага атрада імя Дунаева Васіль Гурскі.

Пра пісьменнікаў-землякоў распавядалі бібліятэкары Таццяна Шыдлоўская, Галіна Астравух, Наталля Сяліцкая, Таццяна Іванова і інш. Прысутныя даведаліся і пра пра жыццёвы шлях удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, ветэрана Узброеных Сіл, аўтара дзясятка кніг успамінаў Анатоля Рагалевіча. Свае творы пра вайну прапанавалі ўвазе прысутныя члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Галіна Нічыпаровіч і Віктар Сабалеўскі.

**Сяргей ВАСІЛЬЧУК**

# Са славянскай спадчыны

Па ініцыятыве Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, Томскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта і Нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Томскай вобласці адбылася міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Захаванне славянскай гісторыка-культурнай спадчыны: вопыт, праблемы і перспектывы».

Ідэя правядзення форуму ўзнікла падчас знаёмства з кіраўніком беларускай дыяспары Томскай вобласці Любоўю Адаскевіч, якая прыязджала летась у Мінск у складзе дэлегацыі на II Рэспубліканскі фестываль мастацтваў беларусаў свету. Ініцыятыву падтрымалі на кафедры сусветнай гісторыі Томскага дзяржаўнага педуніверсітэта дзякуючы дацэнту, кандыдату гістарычных навук Таццяне Ганчаровай. Мерапрыемства аб'яднала больш як 50 вядучых навукоўцаў, якія вывучаюць славянскія культуры ў гістарычным, культуралагічным, філалагічным і філасофскім аспектах.

Праца канферэнцыі паказала, што вывучэнне славянскіх культур — важны аспект. Тэматыка дакладаў атрымалася разнастайнай: ад феномена славянскай кнігі да грамадзянскіх ініцыятыў у захаванні традыцыйнай славянскай культуры.

Уразіла геаграфія ўдзельнікаў: Томск, Мінск, Новасібірск, Барнаул, Кемерава, Северск, Марыупаль, Вроцлаў, Ерэван...

На базе гісторыка-філалагічнага факультэта ТДПУ адкрыты Цэнтр руска-польскай мовы — прадстаўніцтва Вроцлаўскага ўніверсітэта. Студэнты, якія засвоілі праграму адпаведнай лінгвістычнай падрыхтоўкі, могуць стажыравацца або працягнуць навучанне ў Польшчы па магістарскай праграме двайных дыпломаў «Лінгвакультуралогія». Часта праводзяцца выязныя археалагічныя, фальклорныя і дыялекталагічныя практыкі ў розных рэгіёнах Расіі.

Дэканы факультэта культуры і мастацтваў і гісторыка-філалагічнага факультэта — Таццяна Галкіна і Кацярына Каюмава — паказалі свае ўнікальныя бібліятэчныя зборы, галерэі, музеі, майстэрні і адмысловыя выставачныя калекцыі (збіраюцца студэнтамі і педагогамі на працягу многіх гадоў падчас экспедыцый). Паміж факультэтам культуралогіі і сацыякультурнай дзейнасці Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў і гісторыка-філалагічным факультэтам Томскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта падпісаны мемарандум аб супрацоўніцтве.

Удзельнікі канферэнцыі наведалі ў Томску гістарычныя мясціны і ўстановы культуры. Адна з самых адметных — Першы музей славянскай міфалогіі, які вядучыя спецыялісты ў сферы музеязнаўства называюць месцам павышэння кваліфікацыі экскурсаводаў. Нельга было абмінуць аб'екты драўлянага дойлідства, тэатр лялек Уладзіміра Захарава «Два плюс Ку».



З прадстаўнікамі беларускай дыяспары.

**Павел САПОЦЬКА,**
**выкладчык кафедры**
**міжкультурных камунікацый**
**БДУКМ**

# Грыбная гісторыя



Іван Навуменка.

**На вечары памяці Івана Навуменкі ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа Васіль Зуёнак узгадаў цікавы эпізод.**

«Мае адносіны з Іванам Навуменкам былі як у вучня з настаўнікам: калі я вучыўся ў БДУ, ён прыйшоў працаваць выкладчыкам. Я цікавіўся яго прозай і больш за ўсё перачытваў апавяданне пра тое, як грыбы трэба збіраць.

Сцежкі нашы аднойчы перасекліся на Лысай гары, дзе суседзіліся нашы дачныя будынкі. Ішоў дожджык, я сабраўся ў грыбы, і следам прывязаўся мой сабака. Не зусім мой, а «пазычаны» на лета дзецьмі. Харошы, рахманы сабака... Спачатку ён ішоў побач са мной, потым крыху наперадзе. Раптам чую з кустоў брэх і гучны голас: «Забяры сабаку!» Крычу: «Ён не ўкусіць!» Спяшаюся наперад, а там Іван Якаўлевіч стаіць! Я разгубіўся, пачаў тлумачыць: «Гэта коллі — пастухоўскі сабака, ён людзей не чапае, кароў дапамагае пільнаваць...».

Іван Навуменка быў мокры, у плашч-палатцы і з кошыкам. Кажа: «Я цяпер таксама як пастух, чаму ён тады брэша? А ты куды ідзеш?» «Топчамся тут, топчамся», — мармычу я. А гэта слова з яго апавядання: «як грыбы трэба збіраць — не бегаць трэба, а таптацца». Ён зразумеў, што я гэты твор чытаў, і палагаднеў. Кажа: «Добра, пайшлі — ты збірай свае, а я свае буду збіраць».

Потым сустрэліся мы на Іслачы, побач з домам адпачынку. Іван Навуменка правёў мяне ў глухі лясны куточак і паказаў: «Вось тут тапчыся!» Набралі мы там нямала грыбоў... Душа беларуса адкрываецца і ў такіх побытавых дэталях».

**Запісаў Янка НАТАВЕЦ**

# Бераглі Быкава на вайне

У мемуарнай кнізе Васіля Быкава «Доўгая дарога дадому» ёсць такія радкі: «… У першым баі загінуў мой сябра Коля Пераржны, з якім мы ў адным узводзе вучыліся ў Саратаве. Як нас размяркоўвалі па часцях у Ануфрыеўцы, ён усё наракаў, што не далі пісталетаў, якія належалі камандзірам узводаў. Тады сказалі — там атрымаеце. Коля так і не дачакаўся свайго ТТ, раней атрымаў кулю ў сэрца».

Прозвішча тут указана памылкова. На самай справе франтавога сябра Васіля Быкава звалі Мікалаем Беражным. Ён быў аднагодкам будучага беларускага класіка, нарадзіўся і жыў у пасёлку Прыволжскі Саратаўскай вобласці. У час вайны Мікалай вучыўся разам з Васілём Быкавым у Саратаўскім пяхотным вучылішчы. Потым яны разам і трапілі на фронт. Камандзір стралковага ўзвода малодшы лейтэнант Мікалай Беражны загінуў 8 студзеня 1944 г. у баі пад Кіраваградам. Яго пахавалі ў брацкай магіле ў вёсцы Вялікая Севярынаўка Кіраваградскай вобласці. Дарэчы, менавіта гэтая вёска значылася як месца пахавання самога Васіля Быкава ў афіцыйнай паперы, што прыйшла яго бацькам. Аднак тая пахавальная, на шчасце, аказалася памылковай. Васіль Уладзіміравіч у цяжкіх баях на ўкраінскай зямлі быў толькі паранены, падлячыўся ў шпіталі і зноў змагаўся з ворагам.

Аднак гартаем далей кнігу «Доўгая дарога дадому» — «16 сакавіка (1945 г. — **Ю. К.**) магутным выбухам на світанні (гэта немцы ўзарвалі тую ж пераправу пад Шаманторніяй) пачаўся іх адыход і нашае наступленне на захад. Наступалі па тых жа мясцінах (на тэрыторыі Венгрыі. — **Ю. К.**), дзе месяц таму абараняліся, дзе наш полк разграмілі нямецкія танкі. Як праязджалі каля маёй агнявой пазіцыі, дзе гарэлі ракеты, спыніліся, і камандзір палка загадаў завярнуць убок, на старыя пазіцыі разгромленых батарэяў, забраць уцалелыя снарады… Пазіцыі ўзводу Беражнога былі крайнія, мы адразу ўбачылі яго разбітую гармату, разварочаны гусеніцамі ровік, некалькі трупаў салдат і яго самога — на броўцы ровіка з раскінутымі рукамі. Дзяга ў яго была знятая, хтосьці звінціў ордэн Чырвонага Сцяга. Залітая крывёй гімнасцёрка ссохлася».

Гаворка ідзе пра камандзіра ўзвода Мікалая Беражнога. Так, ніякай памылкі тут няма. Калі Васіль Быкаў пасля шпіталю, у які ён трапіў у пачатку 1944 г., зноў апынуўся на перадавой, яго залічылі ў іншае падраздзяленне — 1245 асобны знішчальны супрацьтанкавы артылерыйскі полк. Вось у гэтым палку і служыў камандзірам узвода Мікалай Беражны, 22-гадовы юнак з сяла Нова-Астраханскае тагачаснай Варашылаўградскай вобласці Украіны.

Хутка Быкаў і яго новы франтавы таварыш пасябравалі. У артыкуле «Наша трывожная памяць», надрукаваным у газеце «Известия» праз трыццаць год пасля Перамогі, Васіль Уладзіміравіч успамінаў, што напярэдадні апошняга бою Мікалая Беражнога ён узяў у сябра пачытаць кнігу амерыканскага пісьменніка Драйзера «Сястра Кэры». «Беражному я паабяцаў прынесці кнігу на наступны дзень раніцай, — пісаў В. Быкаў. — Здарылася, што я згубіў кнігу і згубіў свайго сябра».

Ва ўзнагародным лісце, складзеным камандаваннем палка ўжо пасля гібелі Мікалая Беражнога, чытаем: «У баі ў раёне вышыні 125 8 сакавіка 1945 г. вораг на вузкім участку кінуў да 25 танкаў. Лейтэнант Беражны расставіў гарматы свайго ўзводу на прамую наводку, пачакаў, пакуль танкі падыдуць на блізкую адлегласць. Калі танкі былі прыкладна ў 400 — 500 м, узвод тав. Беражнога адкрыў агонь. У выніку бою яго ўзвод знішчыў адзін танк тыпу «Тыгр». Лейтэнант Беражны загінуў смерцю храбрых».

Пасмяротна артылерыст быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені. За баі на венгерскай зямлі Васіль Быкаў ужо пасля Перамогі атрымаў ордэн Чырвонай Зоркі. А згадзіцеся: Мікалай Беражны з Саратаўскай вобласці і Мікалай Беражны з Варашылаўградскай нібыта бераглі на вайне нашага славутага земляка.

**Юрый КАМЯГІН**

# «Опель» ад Акадэміі...

**Палац мастацтва запрашае на выстаўку-справаздачу, прысвечаную 70-годдзю заснавання Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Свае дасягненні прэзентуюць мастацкі факультэт, факультэт дызайну і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.**

Акадэмія мастацтваў сёння — гэта вядучая творчая вышэйшая навучальная ўстанова ў Рэспубліцы Беларусь. Сярод выкладчыкаў акадэміі — У. Тоўсцік, У. Зінкевіч, А. Фінскі, П. Татарнікаў, А. Арцімовіч, В. Славук, іншыя высокапрафесійныя педагогі. Іх творчыя падыходы — ад акадэмічнага майстэрства да канцэптуальных эксперыментаў — атрымалі міжнароднае прызнанне.

У сценах акадэміі яшчэ падчас вучобы таленавітыя студэнты ствараюць сапраўдныя ўзоры мастацтва. Варта ўзгадаць мазаічныя творы на фасадзе Храма-помніка Усіх Святых у Мінску, выкананыя пад кіраўніцтвам Д. Чубукова, роспіс царквы ў вёсцы Баркалабава Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці ды інш. Малады педагог К. Касцючэнка — аўтар мемарыяльнай кампазіцыі «Брама памяці» на месцы былога канцлагера «Трасцянец». У склад цяперашняй экспазіцыі ўваходзіць яго работа, якая экспанавалася на Міжнародным біенале мастацтваў у Венецыі ў 2011 годзе.

Мастацкі факультэт (пачаў дзейнасць у 1953 годзе) прэзентуе на выстаўцы сучасны станковы жывапіс, тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва, выяўленчае рашэнне фільма, станковую і кніжную графіку, лепшыя вучэбныя малюнкі, працы студэнтаў-рэстаўратараў, скульптурную пластыку ды інш. Можна таксама ўбачыць і творы выкладчыкаў факультэта.



Н. Язерская «Каралеўскае паляванне». 2012. Кіраўнік А. Ксянзоў.



А. Філіповіч «Рыба». 2002. Кіраўнік І. Конан.

Шырокі дыяпазон дыпломных і курсавых праектаў прадстаўляе факультэт дызайну і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, заснаваны ў 1976 годзе. Гэта мадэль новага легкавога аўтамабіля «Опель», створаная адным са студэнтаў акадэміі падчас стажыроўкі ў нямецкай аўтамабільнай фірме; дэкаратыўны фантан, прысвечаны легендарнаму возеру Свіцязь; цікавыя калекцыі адзення ў традыцыях беларускай народнай культуры; калекцыі мастацкага шкла і металу; узоры мэблі і праекты разнастайных інтэр'ераў.

Якасць падрыхтоўкі студэнтаў факультэта дызайну і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва пацвярджаецца запатрабаванасцю выпускнікоў факультэта з боку вядучых прадпрыемстваў краіны.

**Таццяна ШЫМУК**

# ... і карцінкі з падсвядомасці

**Выстаўка вядомага графіка і жывапісца Сяргея Балянка «Усё як заўсёды» працуе ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. У межах персанальнага праекта прадстаўлены як зусім новыя творы, зробленыя сёлета, так і графічныя лісты, афорты перыяду 2005 — 2014 гг. У экспазіцыю таксама ўключаны жывапісныя палотны, што выстаўляюцца ўпершыню.**



Кожны твор — асобная гісторыя, са сваім сцэнарыем, драматургіяй, мовай. С. Балянок распавядае пра звычайныя рэчы: чалавечыя стасункі, прыроду, жыццё ў мегаполісе. Востра, разумна, трохі меланхалічна. Гэта не ўніверсальныя жыццёвыя рэцэпты — магчымасць пагрузіцца ў перажыванні, фантазіі аўтара, зрабіць сваю інтэрпрэтацыю візуальных гісторый. У іх няма завяршэння: глядач кожны раз выбудоўвае свой фінал. У 1980 — 1990-х гадах графік шмат ілюстраваў замежную фантастыку. Многія яго творы нагадваюць паралельны свет, у якім мастак «свой сярод сваіх».

Творца не бравіруе звыклымі паняццямі кансерватыўнай прафесійнай школы. Няма ў яго лістах неверагодных ракурсаў, складаных пабудоў лінейнай перспектывы, дэманстрацыі анатамічных ведаў. Ён рэдка індывідуалізуе рысы ананімных герояў, падкрэсліваючы ўніверсальнасць жыццёвых праблем. У афортах сустракаюцца асобы, схаваныя пад маскамі, у малюнках фігур прасочваецца імкненне да стылізацыі, да падкрэсленай выразнасці сілуэта, але не жахі або камізм.

Мастак ганарыцца тым, што ні адзін з яго графічных лістоў не быў зроблены на заказ. Усе яны — адлюстраванне асобы, частка ўнутранага свету, сцвярджаюць мастацтвазнаўцы.



«Вялікае акно ў змрок».

Сяргей Балянок нарадзіўся ў 1954 годзе на Украіне. Пасля заканчэння паліграфічнага інстытута ў Львове пераехаў у Беларусь. Тут яго працы знайшлі першага гледача, тут адбывалася станаўленне майстра. Удзельнік выставак з 1976 года. Працуе ў кніжнай і станковай графіцы (пераважна ў тэхніцы афорта), станковага жывапісу. Творы знаходзяцца як у прыватных калекцыях, так і ў зборах мастацкіх музеяў: Расіі, Германіі, Швейцарыі, Польшчы, Чэхіі, Галандыі, ЗША, Італіі, Нідэрландаў ды інш.

**Таццяна ШЧЭРБА**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова
Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк 11.06.2015 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 2225.
Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1475 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12